13 лістапада 2015 | № 43 (460)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Чаму Пілсудскі не ўзяў Маскву?
стар. 12






# Рукапісы не гараць

**Адной рукой наладжваем стасункі з Захадам, другой — пацвярджаем імідж «апошняй дыктатуры ў Еўропе»**



Сяргей ПУЛЬША

У Мінску ў друкарні была знішчаная пасмяротная кніга палітолага Віталя Сіліцкага «Доўгая дарога ад тыраніі: Посткамуністычны аўтарытарызм і барацьба за дэмакратыю ў Сербіі і Беларусі».

Першым пра гэта даведалася «Польскае радыё» са сваіх крыніц. Паводле іх звестак, загад на знішчэнне кнігі дало Міністэрства інфармацыі Беларусі. Нібыта, ведамства паставіла друкарні ўльтыматум: знішчыць увесь наклад альбо ў адваротным выпадку прадпрыемства будзе закрытае.

Факт знішчэння кнігі пацвердзіў Алесь Пашкевіч, рэдактар часопіса «ARCHE», які, уласна, і быў замоўцам выдання. У Мінінфармацыі паспрабавалі адхрысціцца ад гэтага акту вандалізму. Прынамсі, начальніца ўпраўлення выдавецкай дзейнасці і гандлю міністэрства Алена Паўлава заявіла Радыё «Свабода», што «першы раз пра гэта чуе». Аднак дырэктар друкарні «Палікрафт» Фёдар Басько сказаў журналістам адназначна: «Так, наклад знішчаны. Знішчаны па загадзе з Міністэрства інфармацыі. Нам сказалі, што калі гэтага не зробім, то друкарню закрыюць».

Значыць, загад ці «настойлівае пажаданне» Мінінфарму ўсё ж такі было.

У гэтым ёсць некалькі цікавых момантаў. Найперш, гэта тое, што ці не ўпершыню ў незалежнай Беларусі знішчана кніга проста па загадзе ведамства. Раней выданні хаця б «правяраліся на экстрэмізм», і іх знішчэнне праходзіла толькі пры наяўнасці адпаведнага заключэння экспертаў. Можна прыгадаць, напрыклад, славутую справу альбома «Прэс-фота Беларусі», дзе экстрэмізм быў выяўлены ў фотаздымках.

У альбом «Прэс-фота Беларусі» ўвайшлі здымкі, якія ўжо друкаваліся ў СМІ, — і без нейкіх санкцый і пярэчанняў. Кніга ж Сіліцкага, як пісалася пра яе, — «працяг даследавання «Адкладзеная свабода: посткамуністычны аўтарытарызм у Сербіі і Беларусі». Гэтае даследаванне друкавалася ў 2003 годзе ў часопісе «ARCHE» і было выдадзена асобнай кнігай у 2012-м.

То бок, цікаўны чытач ужо знаёміўся з ідэямі Сіліцкага, прычым — абсалютна легальна.

Дзіўнае знішчэнне кнігі і тым, што яна — не для шараговага чытача. Гэта ўсё ж хутчэй навуковае даследаванне. Сіліцкі — аўтар канцэпцыяў прэвентыўнага аўтарытарызму і аўтарытарнага інтэрнацыяналу, — спрабаваў паказаць падабенства і адрозненні ў гістарычных лёсах і палітычных рэжымах Беларусі і Сербіі, адлюстраваць стратэгіі і вынікі дзейнасці палітычных гульцоў, сярод якіх заканамерна вылучаліся постаці Мілошавіча і Лукашэнкі. Наўрад ці народныя масы прадзёрліся б праз гэты, як было пазначана ў анатацыі, «практычны дапаможнік па метадалогіі палітычных даследаванняў, дзе аўтар выкарыстоўвае шырокі арсенал сродкаў паліталагічнага аналізу і выдатна раскрывае ключавыя паняцці дэмакратызацыі, маніпуляцыйнага і прэвентыўнага аўтарытарызму». Дый наклад кнігі быў усяго тысяча асобнікаў.

Чаго ж спужалася беларуская ўлада? Калега Сіліцкага, палітолаг Юрый Чавусаў лічыць: «Справа — не ў тэксце, а, напэўна, у асобе Віталя Сіліцкага, які нават пасля сваёй смерці застаецца аўтарам найбольш




> **Зараз пускаць пад нож наклад кнігі — справа марная**

глыбокіх аналізаў беларускай палітычнай сістэмы. Думаю, што спужаліся назвы, спужаліся вокладкі, дзе фігура Лукашэнкі ў форме галоўнакамандуючага сумяшчалася з постаццю Мілошавіча. Гэта звычайнае імкненне чыноўнікаў прадухіліць уяўныя пагрозы».

«Абсурд, але мы жывем у гэтым абсурдзе», — кажа яшчэ адзін калега Сіліцкага, палітолаг Валер Карбалевіч. Ён не ўяўляе, якую небяспеку для ўлады магло складаць навуковае даследаванне, заснаванае на падзеях 15-гадовай даўніны. «Пэўна, некаторыя лічаць, што «лепш перабдзець, чым недабдзець», за тое, што «перабдзелі» ў нас, на жаль, не караюць», — прыкра адзначае эксперт.

Калі высветліцца, што сапраўды кніга была знішчаная па загадзе Мінінфармацыі, то, мяркуе Чавусаў, гэта ведамства падклала вялікую свінню кіраўніцтву краіны. «Гэты выпадак лямантуючы, ён закранае не толькі сферу інфармацыі, але і сферу палітычнага дыялогу, які беларускі рэжым спрабуе наладзіць зараз у межах нармалізацыі стасункаў з Захадам. Калі гэты выпадак пацвердзіцца, гэта накладзе негатыўны адбітак на стасункі афіцыйнага Мінска з заходнімі сталіцамі. Калі ў цэнтры Еўропы сярод белага дня знішчаюць наклад кнігі — гэта цемрашальства», — кажа Чавусаў.

Насамрэч, зараз пускаць пад нож наклад кнігі — справа марная. Большай рэкламы для яе, чым забарона, не прыдумаеш. Да тых, хто пажадае прачытаць творы Сіліцкага, выданне дойдзе ўсё адно: праз электронны варыянт, праз інтэрнэт-бібліятэкі, у фармаце для планшэтаў, электронных «чыталак». Тут знішчай, не знішчай — нічога не зробіш. Тым больш, што, як ужо казалася, кніга — для сур'ёзных чытачоў, якіх наўрад ці спыніць адсутнасць яе друкаванага варыянта.

Так што «рукапісы не гараць». Тым больш, у век інтэрнэту.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### СВІСЛАЧ. Суд за Дзень памяці

**Свіслацкага актывіста Юрыя Глебіка неўзабаве чакае суд за Дзень памяці паўстанцаў 1863 года.**

На грамадскага актывіста са Свіслачы Юрыя Глебіка складзены пратакол за адміністрацыйнае правапарушэнне. Справа ў тым, што 31 кастрычніка ў Свіслачы і Якушоўцы прайшоў традыцыйны Дзень памяці паўстанцаў 1863 года, на які з розных гарадоў Беларусі прыехала больш за сто чалавек. Міліцыя здымала ўдзельнікаў Дня памяці на відэа. У той дзень затрыманняў не было. Але пратаколы, аказваецца, склалі.

Падпісваць пратакол пра нібыта адміністрацыйнае правапарушэнне Юрый Глебік адмовіўся. Але цяпер чакае позву ў суд.

**Паводле spring96.org**

### БЯРОЗА. Райвыканкам адмовіў у інфармацыі пра выбары

**«Для прадстаўлення вынікаў галасавання па кожным выбарчым участку Бярозаўскі райвыканкам падстаў не бачыць».**

Такі адказ атрымалі назіральнікі за прэзідэнцкімі выбарамі Тамара Шчапёткіна і Сяржук Русецкі за подпісам намесніка старшыні райвыканкама Яўгена Тарасюка.

У лісце адзначаецца, што звароты, пададзеныя пазней, чым праз 10 дзён пасля выбараў, у адпаведнасці з арт. 40 Выбарчага кодэкса, не разглядаюцца. Таксама ўказваецца, што згодна з арт.13 таго ж Выбарчага кодэкса, «тэрмін паўнамоцтваў назіральніка пачынаецца з дня яго акрэдытацыі і заканчваецца ў дзень устанаўлення адпаведнай камісіяй вынікаў выбараў».

Назіральнікі Т. Шчапёткіна і С. Русецкі, спасылаючыся на арт. 13 Выбарчага кодэкса, сваю заяву з просьбай азнаёміцца з вынікамі выбараў на ўсіх выбарчых участках Бярозаўскага раёна накіравалі 23 кастрычніка. Аўтары адзначылі ў сваім звароце, што хацелі б параўнаць вынікі выбараў на тых участках, дзе прысутнічалі назіральнікі, і дзе іх не было.

**«Праваабаронцы за свабодныя выбары»**

### ГРОДНА. Жыхары патрабуюць заасфальтаваць разбітыя вуліцы

**У Гродне актывісты Беларускай хрысціянскай дэмакратыі змагаюцца за добраўпарадкаванне вуліц. Паміж вуліцай Паповіча і Фолюшам у прыватным сектары бакі вуліц, якія бачныя з цэнтральных вуліц, заасфальтавалі, а ўсярэдзіне дарогі засталіся разбітымі.**

«Хтосьці з чыноўнікаў там праязджаў, і перад яго прыездам пачаткі вуліц заасфальтавалі, а далей іх пакінулі разбітымі», — адзначыў гродзенскі каардынатар аргкамітэту па стварэнні партыі БХД Мікола Баўсюк.

Вырашэннем гэтага пытання заняўся хрысціянскі дэмакрат Глеб Храпавіцкі, які каардынуе збор подпісаў па разбураных вуліцах. 8 лістапада з удзелам жыхароў вуліц адбыўся круглы стол, на якім яны пагадзіліся дапамагаць у зборы подпісаў.

**bchd.info**

# Памяці Віктара Сырыцы

**9 лістапада ранкам прыйшла сумная навіна: раптоўна пакінуў гэты свет старшыня Баранавіцкай арганізацыі ТБМ Віктар Сырыца.**

Гэта вельмі вялікая страта не толькі для нашай арганізацыі, але для ўсіх патрыятычных сіл Беларусі, бо спадар Віктар яднаў усіх аднадумцаў незалежна ад іх палітычных прыхільнасцяў. Ён нястомна працаваў на ніве беларушчыны, апякуючыся помнікамі ў гонар нашых выбітных герояў і славутых, але забытых падзей. Яго ўласная кватэра гасцінна расчыняла дзверы і для маладых творцаў, і для людзей старэйшага пакалення. Яго апантаная дзейнасць у пашырэнні беларускага слова, яго пазіцыя па аднаўленні праўдзівай гісторыі не заўсёды знаходзіла разуменне і падтрымку ў мясцовай улады. Але спадар Віктар верыў у сапраўдныя каштоўнасці і працаваў нягледзячы ні на што.

Сябры Таварыства беларускай мовы смуткуюць з нагоды адыходу Віктара Сырыцы. Мы выказваем шчырыя спачуванні яго родным і блізкім.

Рэдакцыя газеты «Новы час» таксама выказвае шчырыя спачуванні ўсім, хто ведаў гэтага шчырага чалавека. Светлая яму памяць...

# Нямецкі бізнес пра Беларусь: эканамічнае супрацоўніцтва пайшло на спад

*Генадзь КЕСНЕР*

**Падчас Восьмага дня нямецкай эканомікі ў Рэспубліцы Беларусь яго арганізатары — Прадстаўніцтва нямецкай эканомікі ў Беларусі і Нямецка-беларускі эканамічны клуб — распавялі пра актуальны стан эканамічнага супрацоўніцтва паміж нашымі краінамі і выказалі свае меркаванні наконт яго перспектыў.**

Кіраўнік Нямецка-беларускага эканамічнага клуба Хаўсэп Васканян адзначыў, што Беларусь зараз сутыкаецца з шэрагам знешніх выклікаў: «Мэтазгодна і правільна, што дзяржава паставіла мэту дыверсіфікаваць экспарт Беларусі, мадэрнізаваць прадукцыю, мадэрнізаваць саму эканоміку», — лічыць Васканян. Ён дадаў, што ў Беларусі ўжо ёсць пэўны ўзровень нямецкіх інвестыцыяў, ёсць шэраг германскіх кампаніяў, якія актыўна працуюць на беларускім рынку: «Сёння гэта 350 суб'ектаў гаспадарання і 90 прадстаўніцтваў, некаторыя з іх тут ужо дзесяць, а то і дваццаць гадоў».

Як адзначыў кіраўнік Прадстаўніцтва нямецкай эканомікі ў Беларусі Уладзімір Аўгусцінскі, для пераадолення негатыўных наступстваў досвед Германіі, якая мае падобную да Беларусі структуру эканомікі і якая ўваходзіць у тройку-пяцёрку вядучых дзяржаваў свету па валавым унутраным прадукце, імпарце і экспарце, дазваляе разлічваць, што абмен вопытам, тэхналогіямі і ведамі дапаможа выпрацаваць парадыгму эканамічнага развіцця Беларусі.

Намеснік амбасадара ФРГ у Беларусі Хольгер Рапіёр быў вымушаны канстатаваць, што ў гэтым годзе эканамічнае супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Германіяй пайшло на спад. Так, за восем месяцаў (студзень-верасень) 2015 года беларускі экспарт у ФРГ скараціўся на 37%, а імпарт з гэтай краіны стаў меншым на 46%. «Гэтыя лічбы выклікаюць у нас вялікую заклапочанасць, і нам застаецца толькі спадзявацца, што ў будучыні нам атрымаецца дасягнуць ранейшых паказчыкаў», — сказаў Рапіёр. Ён, аднак, адмовіўся нават прагназаваць, калі гэта адбудзецца.

«Так, Беларусь апынулася ў цяжкім эканамічным стане з шэрагу знешніх фактараў, — звярнуў увагу нямецкі дыпламат. — Але ёсць яшчэ і шэраг унутраных чыннікаў, якія ўскладняюць сітуацыю ў краіне. Мы зараз назіраем цікавую фазу. За апошнія тыдні ў Беларусі прайшоў шэраг форумаў і канферэнцыяў, на якіх выступалі прадстаўнікі розных дзяржаўных структур. Выказваўся і сам кіраўнік дзяржавы. Пры гэтым наконт песпектываў і неабходнасці рэформаў эканомікі яны выказвалі зусім супярэчлівыя рэчы, якія не пасуюць адна да адной».

Рапіёр адзначыў: каб у Беларусь прыйшлі інвестыцыі з Германіі, інвестары мусяць мець прававыя гарантыі, чаго сёння ў Беларусі бракуе. Бізнесмены, сказаў ён, — людзі ў пэўным сэнсе кансерватыўныя, яны мусяць дакладна ведаць, куды і навошта яны ўкладаюць свае грошы, яны патрабуюць гарантыяў сваіх інвестыцыяў.

Беларусь жа сёння, па вялікім рахунку, такіх гарантыяў даць не можа. Жаданне прыйсці ў нашу краіну ў нямецкіх прадпрымальнікаў ёсць, бо тут, па словах Хаўсэпа Васканяна, ёсць вялікі патэнцыял для інвестыцыяў. Але перашкодай з'яўляецца існуючае заканадаўства і практыка, якія не гарантуюць выканання правоў інвестараў. Таму застаецца спадзявацца на перамены ў будучыні.

# Эколагі супраць выканкама

*Жанна ГЕМБІЦКАЯ*

**У Глыбокім 11 лістапада пачаўся суд па іску грамадскага аб'яднання «Экадом» супраць выканкама, які даў дазвол на будаўніцтва царквы без правядзення абавязковага грамадскага абмеркавання.**

Пачалося ўсё з таго, што мінскаму бізнесмену Мікалаю Рамановічу, які ўжо пабудаваў сабе летні асабняк, захацелася пабудаваць яшчэ і царкву. Справа, канешне, добрая, але месца для будаўніцтва ён выбраў акурат ля ўнікальнага возера Балдук, дзе любое будаўніцтва звычайнаму чалавеку было б забаронена. Бо гэта зямля належала да гідралагічнага заказніка Швакшты.

Але бізнесмен атрымаў дазвол мясцовай улады без правядзення грамадскага абмеркавання, экалагічнай экспертызы і іншых працэдур. А хутка зямлю, на якой пачалося будаўніцтва, вывелі за межы заказніка і прыядналі да вёскі Станьчыкі. У выніку атрымалася дзіўная сітуацыя: вакол Станьчыкаў — гідралагічны заказнік, а у саміх Станьчыках — будуй, што хочаш. Але нават у гэтым выпадку выканкам павінен быў правесці грамадскае абмеркаванне.

Грамадскасць і эколагі выступілі супраць. Мясцовыя жыхары правялі з гэтай нагоды сход, з дапамогай экалагічных арганізацый было сабрана больш за 15 тысяч подпісаў супраць будаўніцтва царквы, а таксама на дзеянні выканкама пададзены іск у суд. Эколагі спрабуюць дабіцца выканання працэдуры пры прыняцці такога роду рашэнняў.

На першае пасяджэнне акрамя адказніка па справе прыйшла і група падтрымкі: «прадстаўнікі мясцовых жыхароў», якіх прадстаўнік выканкаму адразу запісаў у сведкі. Судовае пасяджэнне пачалося з анекдота: адказчык сцвярджаў, што нібыта сход, праведзены супраць будаўніцтва царквы — гэта і былі грамадскія слуханні. І, нібыта, арганізавалі гэты сход не мясцовыя актывісты, а Лынтупскі сельсавет.

У прынцыпе, пасля гэтага пасяджэнне суда можна было закрываць, а плануемае будаўніцтва — скасоўваць. Бо калі гэта былі грамадскія слуханні, то грамада выказалася адназначна супраць будаўніцтва. Але працэдура абмеркавання прадугледжвае аб'яву аб слуханнях, экспазіцыю архітэктурнай канцэпцыі. Калі гэта былі слуханні, дык чаму не была выкананая працэдура?

Навошта, лічыць прадстаўнік выканкаму. Паводле ягоных словаў, у артыкуле пра гэтае будаўніцтва на партале tut.by ёсць прыгожыя фотаздымкі, якія замяняюць усе дакументы.

А потым выканкам заслухаў «сведак», запрошаных выканкамам. Амаль усе сведкі чыталі свае заявы з паперак. Па-першае, яны сцвярджалі, што ў Станьчыках, дзе плануецца ўзвядзенне царквы, жыве спрэс апазіцыя. Па-другое, гэтая апазіцыя марыць пасварыць каталікаў і праваслаўных. І самае галоўнае — гэта зусім не Лынтупскі сельсавет праводзіў сход-абмеркаванне, як сцвярджаў прадстаўнік выканкаму, а БНФ і «Экадом».

Прадстаўніку Пастаўскага выканкаму засталося толькі сцвярджаць, што будаўніцтва царквы ўжо ўзгодненае, усе экспертызы праведзеныя, а калі яно ўзгодненае, то грамадскія абмеркаванні непатрэбныя.

У выніку суддзя, насуперак чаканаму сёння рашэнню па правядзенні грамадскіх слуханняў, адклаў далейшае разбіральніцтва да 25 лістапада.

У прынцыпе, зразумела, чаму Пастаўскі выканкам так хапаецца за гэтае будаўніцтва. Мікалай Рамановіч у судзе паведаміў, што будоўля будзе каштаваць 6 мільярдаў рублёў. Але вось Балдук мы можам страціць назаўсёды.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Скараціць непатрэбных

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Ёсць такая беларуская показка пра стадыі беларускай беднасці: «Грошай няма, грошай няма зусім, ідзем здаваць валюту». Да ўлады яна датычыцца крыху паіншаму: «грошай няма настолькі, што замахваемся на святое».**


Фота www.gestionrrhec.com

Спачатку ўлада замахнулася на спыненне будаўніцтва рознага кшталту «лядовых палацаў». Потым адмяніла «Дажынкі». Далей Аляксандр Рыгоравіч рэвалюцыйным чынам загадаў скараціць чыноўніцтва на 30 працэнтаў. З апошняга мала што атрымалася, і зараз ён замахнуўся на святое — на сілавікоў. «Мы не такія багатыя, каб утрымліваць лішнюю колькасць сілавых структур», — заявіў ён падчас нарады па пытаннях развіцця дзяржаўных органаў сістэмы забеспячэння нацыянальнай бяспекі.

«Трэба пазбавіцца ад лішніх, часам надуманых функцый, у тым ліку кантрольных, выключыць непатрэбнае дубляванне працы ведамстваў», — працягнуў Лукашэнка.

Сапраўды, у нас зашмат і «кантралёраў», і міліцыі. Па звестках ААН, у Беларусі прыходзіцца 1 422 міліцыянты на 100 тысяч насельніцтва. У свеце сярэдняя колькасць праваахоўнікаў на 100 тысяч чалавек складае прыкладна 300, аптымальнай для забеспячэння бяспекі гэтая сусветная структура лічыць колькасць у 222 ахоўніка парадку на 100 тысяч грамадзян. То бок, міліцыю можна смела скараціць у шэсць разоў.

Калі колькасць міліцыянтаў скараціць нават у чатыры разы, за зэканомленыя сродкі можна ўдвая падняць заробак тым, хто застанецца. А другая палова грошай ад «скарачэння» — чысты бюджэтны прыбытак.

Наконт кантралёраў. Сёння ў рэспубліцы працуе 58 (!) кантралюючых і наглядных арганізацый толькі рэспубліканскага (!) узроўню. А ёсць яшчэ і кантралёры мясцовыя. Чым яны займаюцца? Ці ёсць у нас хоць падставы, каб столькі кантраляваць? Пра непатрэбнасць большай часткі «кантралёраў», «ліцэнзентаў», «сертыфікатчыкаў» і гэтак далей вам раскажа любы прадпрымальнік. Памятаеце, колькі было гвалту з-за сертыфікацыі прадукцыі лёгкай прамысловасці? Здаецца, стварылі ЕАЭС, Мытны Саюз, навошта нашым прадпрымальнікам асобныя, беларускія сертыфікаты, калі мы прызнаем сертыфікаты ЕАЭС і МС? Гэтыя органы таксама можна смела скарачаць.

Але самы смачны шматок для скарачэння — нашы «саюзніцкія абавязкі».

Як вядома ўжо ўсім, у наступным годзе нас чакае дэнамінацыя нацыянальных грошай. Нацбанк ужо паказаў новыя рублі і капейкі. Але некаторыя ўжо працуюць над іншымі разліковымі адзінкамі.

На тыдні старшыня камітэта Дзярждумы Расіі па справах СНД Леанід Слуцкі заявіў, што недзе ідзе праца над стварэннем адзінай разліковай валюты для краін ЕАЭС. Праца, па яго словах, ідзе «з цяжкасцю», але вядзецца. Ён выказаў меркаванне, што валюта зможа называцца «еўраз». І аптымістычна заўважыў, што «хутка ў нас будзе адзіная разліковая адзінка».

Сказаць, што адказныя асобы ЕАЭС гэтымі заявамі былі злёгку агаломшаныя, не выпадае. Яны ўвогуле былі ў шоку. Беларусы прапусцілі гэта міма вушэй, дзівячыся на новыя нацыянальныя грошы, а вось старшыня Цэнтрабанка Арменіі Артур Джавадзян адразу заявіў, што размовы аб пераходзе краін ЕАЭС на адзіную валюту заўчасныя. І праінфармаваў, што ён са сваімі калегамі па ЕАЭС абмяркавалі гэтае пытанне і прыйшлі да высновы, што працэс запуску «еўраза» запатрабуе 30–40 гадоў.

Прэс-сакратар прэзідэнта Казахстана Даур Абаеў увогуле сказаў, што пытанне стварэння адзінай валюты ў рамках ЕАЭС на парадку дня інтэграцыйнага аб'яднання не стаіць. І ўвогуле, яно «не абмяркоўваецца ні на адным з узроўняў інтэграцыйнага аб'яднання», адзначыў Абаеў.

Дык навошта ў тым ліку і нашы чыноўнікі ў ЕАЭС працуюць над праблемай заведама мёртвага пытання? Можна смела скасаваць іх пасады і пераключыць на нешта іншае. Тое ж тычыцца і іншых інтэграцыйных аб'яднанняў. Ну, хай сабе яшчэ застанецца так званая «Саюзная дзяржава» — пад яе пратэктаратам хаця б суперкампутар «Скіф» стварылі і «Белку» ў космас запусцілі. А вось, напрыклад, СНД што робіць? Простыя людзі пра яго ўзгадваюць два разы на год, у гадавіну путчу ГКЧП і падпісання Белавежскіх пагадненняў. І толькі чыноўнікі, якія там працуюць, — два разы на месяц, у дні авансу і заробку. Што яны там робяць, акрамя атрымання грошай, — загадка. А на адной толькі арэндзе будынка ў цэнтры Мінска, дзе месціцца офіс гэтай ужо амаль міфічнай арганізацыі, можна зарабіць даволі няблага.

Карацей, калі паскрэці па засеках, можна наскарачаць настолькі, што мы адразу ж расплоцімся за палову знешняга доўгу.

Праўда, наколькі шчырым ёсць жаданне Аляксандра Рыгоравіча скараціць розных кантралёраў, міліцыянтаў, дый проста сапраўдных дармаедаў (а не тых, што пазначаныя ў адпаведным дэкрэце), — вялікае пытанне. Адначасова з прапановай скараціцца прабадыр папярэдзіў: «У той жа час і спрашчэнствам займацца нельга. У адваротным выпадку можна даскарачацца да таго, што ў нас сістэма будзе, але яна апынецца непрацаздольнай».

Яшчэ больш насцярожвае чарговы загад кіраўніка дзяржавы пра тое, што «праверкі ажыццяўляць трэба выключна тады, калі на руках аб'ектыўны аператыўныя матэрыял. На гэта я буду звяртаць асаблівую ўвагу. І крый Божа, калі вы зоймецеся нейкім прадпрыемствам і пойдзеце адтуль з пустымі рукамі».

Гэты загад мы чулі ўжо некалькі разоў. Яшчэ ў жніўні 2009 года Лукашэнка загадваў спыніць неабгрунтаваныя праверкі прадпрыемстваў і прыватнікаў. Калі ён аддае аналагічны загад зараз — значыць, нічога не змянілася. І гэта трывожыць: ці не будзе праігнараваная ўся гэтая нарада? Ці не «на публіку» яна?

Усё ж такі сілавыя структуры для кіраўніка Беларусі — гэта святое. Ужо шмат разоў іх збіраліся рэфармаваць. Аднак гэтыя спробы нічым канкрэтна не скончыліся.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Леанід Судаленка

**Праваабаронца вымусіў старшыню Дзяржаўнага памежнага камітэта даць афіцыйна адказ на пытанне, чаму яго ўвесь час даглядаюць на мяжы.**

Раней распачалася кампанія па зваротах грамадзян «Спыні бязмежжа на мяжы — падтрымай праваабаронцаў». Грамадзяне падпісаліся пад электронным зваротам з просьбай да старшыняў ДПК і ДМК (Дзяржаўны мытны камітэт) спыніць адвольныя асабістыя дагляды на мяжы праваабаронцаў Леаніда Судаленкі і Васіля Палякова.

Мальцаў адказаў своеасабліва. Маўляў, заканадаўства не абмяжоўвае перыядычнасць і частату правядзення даглядаў. Дагляд прадугледжвае пэўныя нязручнасці, але ён ужываецца на ўсіх межах свету. Дзеянні ж праваабаронцаў Мальцаў ахарактарызаваў як «спробы палітызаваць дагляды ў рамках пагранічнага або мытнага кантролю, звязаць іх правядзенне са спецыфікай прафесійнай або грамадскай дзейнасці асобных катэгорый грамадзян», што «ў большай ступені ўяўляецца формамі аказання ціску на службовых асоб у пунктах пропуску і імкнення прысвоіць выдуманае права імунітэту без усялякіх на тое юрыдычных падстаў».

Судаленка з абвінавачваннямі Мальцава не згодны: «Калі едзе цягнік, напрыклад, Вільня — Мінск, там знаходзіцца каля 750 пасажыраў. А здымаюць чамусьці толькі мяне! І гэта пачынаецца, як толькі памежнік устаўляе мой пашпарт у сканер. Як можна казаць пра тое, што я палітызую гэтую абуральную працэдуру?»

## Іван Наскевіч



**Новапрызначаны старшыня Следчага камітэта Беларусі шмат у чым адметны, але галоўнае, што высветлілі журналісты, ён — прыхільнік смяротнага пакарання.**

Пра гэта ён заяўляў у 2013 годзе ў інтэрв'ю газеце «Вячэрні Брэст» у сваю бытнасць пракурорам Брэсцкай вобласці, нагадвае krynica.info. «На дадзеным этапе асабіста я за тое, каб вышэйшая мера засталася як стрымальны фактар. Магчыма, праз нейкі час мы прыйдзем да таго, што яе трэба будзе адмяняць. Але пакуль яна апраўданая, у выключных выпадках. Хоць трэба разумець, што такія прысуды павінны быць вельмі ўзважанымі», — сказаў ён.

Хто б даведаў Наскевічу, што смяротнае пакаранне — не стрымліваючы фактар, і гэта пацверджана сусветнай практыкай?

## Вікторыя Азаранка

**Наша тэнісістка апынулася на чацвёртым месцы рэйтынга самых фінансава паспяховых спартсменак за пяцьдзясят гадоў, складзенага Жаночай тэніснай асацыяцыяй.**



Крытэрам быў заробак на корце звыш 20 мільёнаў долараў. Рэйтынг не адлюстроўвае фінансавы дабрабыт спартсменак — у ім падлічаныя толькі прызавыя, зробленыя на корце. Скажам, Марыя Шарапава за кар'еру зарабіла больш за $36 мільёнаў, але па-за кортам толькі за апошні год — звыш $23 мільёнаў. Але і названыя сумы — не чыстыя прыбытак, з іх варта адымаць падатак, памер якога залежыць ад заканадаўства канкрэтнай краіны.

Першае месца ў рэйтынгу ў Серэны Уільямс — першая ракетка свету за апошнія пяць гадоў выйграла амаль палову ўсіх турніраў «Вялікага шлема» і чатыры выніковых чэмпіянаты ВТА. Сума яе прызавых склала 74 мільёны 83 тысячы 421 долар. За ёй ідзе расіянка Марыя Шарапава — $36 484 486. На трэцім месцы сястра Серэны Венус Уільямс, яе прыз — $32 608 015. А прыз Вікі Азаранкі — $25 593 363.

Яшчэ адна ўмоўнасць рэйтынга — ён не адлюстроўвае спартовыя дасягненні. Напрыклад, Марціна Наўрацілава і Штэфі Граф пераўзыходзяць Серэну Уільямс па ліку заваяваных тытулаў, але па суме прызавых саступаюць у разы. Прычына простая: у часы росквіту Марціны і Штэфі прызавыя фонды турніраў саступалі цяперашнім. Напрыклад, агульная каса «Australian open — 1999» складала 8,1 мільёна долараў, а ў гэтым годзе — $32,5 мільёна.

# «Беларусь і двух тыдняў не пратрымаецца...»

**На мінулым тыдні ў Маскве і іншых гарадах адбыліся «рускія маршы», удзел у якіх бралі розныя адгалінаванні нацыяналісцкіх груповак. Адпаведна з ідэалогіяй кожнай групоўкі, акцыі называліся «Рускі марш за рускі мір», «Рускі марш за рускі рэванш», «Рускі марш супраць дыктатуры» і іншыя.**

Галоўнае святочнае шэсце адбылося на Цвярской вуліцы. У ім, паводле дадзеных паліцыі, узялі ўдзел не менш за 85 тысяч чалавек.

«Радыё Свабода» пагутарыла з расійскім палітолагам Дзмітрыем Арэшкіным, каб высветліць, наколькі нацыяналізм і шавінізм апанаваў расійскае грамадства.

***— У «рускіх маршах» бралі ўдзел у асноўным маладыя людзі. Чым выклікана іх актывізацыя?***

— На вуліцы выходзіць новае пакаленне. Яно не ведае сапраўднай вайны, адчувае сябе абароненым ад голаду і дэфіцыту тавараў, але адчувае сябе прыніжаным. Чаму прыніжаным? Таму што ў той карціне свету, якая стваралася расійскай уладай, вельмі істотную ролю адыгрывае комплекс прыніжэння.

У словах Пуціна пра тое, што найбуйнейшая геапалітычная катастрофа XX стагоддзя — гэта распад СССР, новае пакаленне бачыць крыўду. Натуральным чынам з'яўляецца мара пра рэванш. Менавіта ў гэтым разгадка як феномену Пуціна, так і феномену групаў фашысцкага кшталту, якія цяпер масава ўтвараюцца ў Расіі.

Фундаментальная праблема ў тым, што яны маюць скажоны вобраз мінулага Вялікай Расіі, створаны такімі ж пакрыўджанымі літаратарамі і мастакамі. Для іх СССР быў вялікай і магутнай краінай, якую ўсе паважалі і ў якой добра жылося.

Карцінкі, якімі прапаганда можа дэманстраваць нацызм ці бальшавізм, — вельмі прывабныя для простага чалавека: моцныя мускулістыя хлопцы дружна крочаць па шырокай плошчы. Натхнёныя такімі вобразамі, цяпер у Расіі з'яўляюцца дробныя нацысцкія і фашысцкія групоўкі са сваімі лідарамі, сімваламі, лозунгамі. Менавіта іх і можна было бачыць у фотарэпартажах з «рускіх маршаў», якія праходзілі ў Маскве і іншых гарадах 4 і 7 лістапада.

Гэтыя групоўкі даволі маргінальныя, яны не носяць агульнанацыянальнага характару. Але іх існаванне сведчыць пра голад па велічы, жаданне прыгожай карцінкі. Гэтыя групоўкі даволі папулярныя. Найперш, праз тое, што людзі не хочуць думаць, чым гэта заканчваецца. А заканчваецца гэта заўсёды вайной і катастрофай дзяржавы. Цяпер у Расіі мейнстрым — пуцінскі нацыяналізм, патрыятызм і рэваншызм. А там, дзе мейнстрым, — там моладзь. Таму мы і бачым на «рускіх маршах» вялікую колькасць маладых людзей, якія хочуць далучыцца да таго, што цяпер папулярна.

***— Як новыя фашысцкія і нацыяналісцкія групоўкі ў Расіі глядзяць на суседнія краіны, напрыклад, Беларусь? Ці дамінуе ідэя вяртання былых савецкіх рэспублік у адзінае дзяржаўнае ўтварэнне пад кіраўніцтвам Крамля?***

— Я б сказаў, што ў сапраўднай геапалітыцы гэтыя групоўкі нічога не вырашаюць. Але што тычыцца Беларусі, то, баюся, тут могуць быць планы ў Пуціна — а гэта нашмат сур'ёзней, чым агрэсіўныя маладзёны, якія выходзяць на «рускія маршы».

Пуцін шукае формулу, якая дазволіць яму апраўдваць бязззменнае трыманне ім улады. Формулы могуць быць розныя: супрацьстаянне з Захадам, збіранне рускіх зямель, узнаўленне СССР — нешта такое, што стварае крызісную сітуацыю, каб можна было сказаць, што коней на пераправе не мяняюць.

Апошнія два гады такая крызісная сітуацыя была створаная на ўсходзе Украіны, у выніку чаго ў Расіі рэйтынг Пуціна вельмі моцна павысіўся. Але цяпер людзі пачынаюць паціху разумець, што атрымалася зусім не тое, што планавалася: Украіна не далучылася да Еўразійскага саюза, забіта шмат людзей, Украіна крочыць у бок Еўропы.

***— Ці ў Расіі лічаць, што Беларусь таксама разварочваецца тварам да Захаду? І калі так, то чым гэта можа пагражаць?***

— Усе разумеюць, што ў Пуціна няма грошай, якія вельмі патрэбныя Лукашэнку. Таму ён цяпер шырока ўсміхаецца Захаду, дзе яму могуць даць грошай. Дзеля гэтага былі выпушчаныя палітычныя вязні, дзеля гэтага дасюль няма згоды на размяшчэнне расійскай авіябазы. І тут можна трапіць пад раздачу з боку Пуціна, які цяпер у стане халоднай істэрыкі. У яго ўсюды аблом: ва Украіне — аблом, у Сірыі — чым больш туды будзе лезці, тым больш відавочны будзе аблом, людзі паступова пачынаюць разумець, што самалёт «Кагалымавія» ўзарвалі, і гэта неяк звязана з Сірыяй.

А Пуціну патрэбныя перамогі. І выходзіць, што Беларусь і Лукашэнка — самы прыдатны варыянт, каго ён можа перамагчы з мінімальнымі затратамі. А калі параўноўваць вайсковы патэнцыял, то лёгка зрабіць выснову, што Беларусь і двух тыдняў не пратрымаецца.

**Паводле «Радыё Свабода»**

# Нас пужаюць, а нам не страшна

Сяргей ПУЛЬША

**Жахліўкі пра анексію Беларусі Расіяй мы чуем ужо пару гадоў. Аднак пакуль што гэта не мела аніякага дачынення да рэальнасці.**




На гэтым тыдні ў інтэрнэце з'явіўся чарговы ўкід пра планы Пуціна анексаваць Беларусь. Зачыншчыкам дыскусіі стаў украінскі палітолаг Віктар Каспрук. Ён лічыць, што ў нашага «старэйшага брата», на хвалі ўра-патрыятызму, эйфарыі ад «уставання з каленяў» і піяр-бамбавання Сірыі спрэс атрафавалася сумленне. Таму рускія, у выпадку чаго, з радасцю падтрымаюць чарговую палітычную авантуру Пуціна — вяртанне Беларусі «дадому» ў Расію.

На думку ўкраінскага адмыслоўцы, Пуцін «разумее, што менавіта ва Украіне — ключ ад будучыні Расіі, дакладней, ад будучыні новай Расійскай імперыі. Такой, якой ён яе бачыць. Таму спатыкнуўшыся на Украіне, ён у наступным годзе можа пераключыць сваю агрэсію на Беларусь як важны плацдарм новага наступу на ўкраінскую дзяржаву».

«Аншлюс Беларусі можа пачацца ў пачатку 2016 года, паралельна з аднаўленнем ваенных дзеянняў РФ у Данбасе. І нічога Лукашэнка не зможа зрабіць, калі ў Крамлі будзе прынята рашэнне аб пераўтварэнні Беларусі ў «Заходнюю федэральную акругу» Расійскай Федэрацыі», — прарочыць Каспрук.


Фота www.bobr.by

Тым больш, што, па меркаванні Каспрука, «зялёныя чалавечкі» ўжо тут, у Беларусі, пад выглядам аховы расійскіх ваенных аб'ектаў. Імі ж спрэс начыненыя беларускія КДБ, МУС і Міністэрства абароны.

Услед за ўкраінскім палітолагам выказаўся ягоны расійскі калега Дзмітрый Арэшкін. Ён таксама лічыць, што Пуціну патрэбная яшчэ адна «невялічкая пераможная вайна». «І выходзіць, што Беларусь і Лукашэнка — самы прыдатны варыянт, каго ён можа перамагчы з мінімальнымі выдаткамі. А калі параўноўваць вайсковы патэнцыял, то лёгка зрабіць выснову, што Беларусь і двух тыдняў не пратрымаецца», — сцвярджае Арэшкін.

Чаго больш у гэтых разважаннях: рацыянальнага зерня альбо трызнення?

Найперш, давайце спынім размовы пра «ваенны патэнцыял». Калі ўжо яго параўноўваць, то сітуацыя ва ўкраінскай арміі напачатку канфлікту была значна горшай, чым зараз у беларускай. Так, КДБ у нас, можа быць, і прарасійскі, але не больш, чым у 2014 годзе ва Украіне. Што ж тычыцца «зялёных чалавечкаў», якія нібыта ахоўваюць тут расійскія аб'екты, — гэтыя развагі смеху вартыя. У нас расійскіх аб'ектаў — дзве радыёлакацыйныя станцыі, і наўрад ці «радыйшчыкаў», тэхнічных спецыялістаў, можна залічыць у паўнавартаснае баявое злучэнне. Гэта ж не дэсантны полк. Абарона «радыйшчыкаў» ад «ультранацыяналізму» можа стаць хіба што падставай для агрэсіі, але дзе вы бачылі ў Беларусі «ультранацыяналізм»?

**Не варта забывацца і пра прынятую Беларуссю новую ваенную дактрыну, дзе дастаткова ўвагі нададзена барацьбе з тымі самымі «зялёнымі чалавечкамі»**

Не варта забывацца і пра прынятую Беларуссю новую ваенную дактрыну, дзе дастаткова ўвагі нададзена барацьбе з тымі самымі «зялёнымі чалавечкамі», і пра створаныя падраздзяленні «тэрытарыяльнай абароны», у народзе празваныя «партызанамі», і пра тое, што, па дадзеных сацыёлагаў, 25% беларусаў пасля Крыма гатовыя адстойваць незалежнасць краіны са зброяй у руках.

Так што, калі змрочныя казкі сацыёлагаў пачнуць спраўджвацца, то ўсё будзе залежаць ад палітычнай волі кіраўніцтва дзяржавы. Калі кіраўніцтва вырашыць супраціўляцца пераўтварэнню «крыштальнага сасуда» ў Паўночна-Заходні край, то Пуцін атрымае пад Магілёвам «другі Данбас».

А вось што страчвае Пуцін у выпадку рэалізацыі «беларускага плана», калі такі ўвогуле існуе?

Па-першае, ён страчвае амаль адзінага зараз важкага саюзніка на міжнароднай арэне. Узгадаем, напрыклад, галасаванне ў ААН па «антырасійскай» рэзалюцыі аб тэрытарыяльнай цэласнасці Украіны. Яе не падтрымалі 11 краінаў, у тым ліку Расія і Беларусь. Хто астатнія дзевяць? Арменія, Балівія, Куба, Паўночная Карэя, Нікарагуа, Судан, Сірыя, Венесуэла і Зімбабве. Вылучаецца з гэтага шэрагу «занядбанцаў» хіба што Арменія.

Па-другое, Расія непазбежна падпадае пад больш моцны эканамічны і санкцыйны ціск ЕС і ЗША. Міжнародная супольнасць яшчэ «праглынула» дзеянні Расіі ў Грузіі ў 2008-м, але Украіну пражоўваць ужо адмовілася.

Адказ на анексію Беларусі можа быць і ваенны. Калі сінявокая ператвараецца з «перамоўнай пляцоўкі» ў «плацдарм наступу на Украіну», як пра гэта кажа Каспрук, то, напрыклад, ЗША могуць прыняць завіслае дзякуючы вета Абамы рашэнне пра пастаўкі на Украіну ўжо лятальнай зброі.

Непазбежная і адпаведная рэакцыя NATO на такое «ўз'яднанне брацкіх народаў». Усе адразу ж узгадаюць «прыяднанне» да СССР Літвы, Латвіі, Эстоніі, Заходняй Беларусі і гэтак далей.

І самае галоўнае: досвед апошніх канфліктаў з удзелам Расіі сведчыць, што яна не здольная ваяваць «на два фронты». Паказальная ў гэтым плане занепакоенасць баевікоў на Данбасе тым, што ім прапаноўвалі з'ехаць у Сірыю. Гэтыя прапановы былі расцэненыя як канчатковы «зліў Наваросіі». А за сірыйскай аперацыяй настала пэўнае зацішша ў Данецку.

Адкрываць у такіх умовах «трэці беларускі фронт»? Мінусаў ад гэтага значна больш, чым плюсаў. Балівар дваіх не цягне, а ўжо трэцяга — і пагатоў.

# Ахоўнікі і рэфарматары — хто каго

Дзяніс ЛАЎНІКЕВІЧ

**Як правесці рэформы, каб яны не выглядалі як рэформы? На такое пытанне павінны даць адказ шматлікія высокія службоўцы як ва ўрадзе, так і ў прэзідэнцкім асяроддзі.**




## Будзе — не будзе?

Ад інаўгурацыйнай прамовы кіраўніка Беларусі вельмі шмат хто чакаў аб'явы аб старце эканамічных рэформаў. А прагучала: ніякіх рэформаў не будзе. Унікальная сацыяльна-эканамічная мадэль ужо пабудаваная, застаецца яе толькі ўдасканальваць.

Гледзячы на тэмпераментнасць і экспрэсіўнасць «троннай прамовы», складана нават выказаць здагадку, як яна нараджалася. Думаю, падчас адчайнай бойкі паміж двума досыць выразна аформленымі групоўкамі ў асяроддзі прэзідэнта.

Але атрымалі мы тое, што атрымалі. Кіраўнік сваё стаўленне да рэформаў акрэсліў ёмістымі фразамі: «Занадта шмат сёння кажуць і пішуць аб структурных рэформах. І ніхто, заўважце, не сказаў: а што гэта за рэформы? Але калі хтосьці за рэформы, то вы ж будзьце людзьмі, скажыце, што трэба зламаць палітычны лад, дзяржаўны лад Беларусі, трэба падзяліць, разрэзаць дзяржаўную ўласнасць і раздаць. Трэба казаць адкрыта: на гэтыя рэформы нас пхаюць і за гэтыя рэформы сёй-той сёння ў свеце гатовы шмат заплаціць».

Але калі Лукашэнка кажа, што структурных рэформаў не будзе, гэта яшчэ не значыць, што іх сапраўды не будзе.

## Бойка пад дыванам

Калі ў снежні 2014 года на фоне фінансавага крызісу кіраўнік Беларусі змяніў урад, а потымператасаваў сваю адміністрацыю, адбылося нешта нечаканае. У абедзве гэтыя структуры ўвайшлі маладыя (па беларускіх мерках) эканамісты-рыначнікі, з добрай адукацыяй і сучаснымі поглядамі на эканоміку. Ва ўрадзе Мясніковіча за рынкавыя падыходы адчайна змагаўся адзін міністр эканомікі Мікалай Снапкоў, які гэтым заслужыў шчырую павагу з боку незалежных эканамістаў і журналістаў.

Пасля змены ўрада Снапкоў стаў намеснікам кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі, кампанію яму склаў іншы «рэфарматар» — Кірыл Руды, дарадца Лукашэнкі па эканамічных пытаннях і начальнік галоўнага эканамічнага ўпраўлення АП. А ва ўрадзе атабарыліся некалькі іншых рыначнікаў — першы віцэ-прэм'ер Васіль Мацюшэўскі, намеснік міністра эканомікі Аляксандр Забароўскі.

Менавіта ў першым паўгоддзі 2015-га сфармаваліся дзве ўмоўныя групы ўплыву ва ўладзе — «рэфарматары» і «ахоўнікі». Першыя перакананыя, што беларуская мадэль сацыяльнай дзяржавы з квазісацыялістычнай эканомікай — нягеглая і бесперспектыўная без сталага фінансавання з боку Расіі і вольнага доступу на рынкі ЕАЭС. Таму адзінае выратаванне для Беларусі — цвёрдая манетарная палітыка і структурныя рэформы ў эканоміцы. Другія лічаць, што ўсё добра, а таму руйнаваць яе не варта.

Да групы «рэфарматараў» я б умоўна далучыў Мікалая Снапкова, Кірылу Рудага, Васіля Мацюшэўскага, Аляксандра Забароўскага, усё кіраўніцтва Нацбанка і асабіста Паўла Калаўра. А таксама іх шматлікіх паслядоўнікаў у розных дзяржструктурах. Гэта перад імі цяпер стаяць няпростыя задачы. Па-першае, запусціць рэформы, пра якія багата казалася ў апошнія месяцы на шматлікіх эканамічных форумах. А па-другое — прыдумаць фармулёўку для пазначэння пераўтварэнняў у эканоміцы і грамадстве, пазбягаючы словаў «рэформа», «перабудова», «перазагрузка» і ім падобных. Можна ўзгадаць, што і Міхаіл Гарбачоў свае рэформы спачатку назваў не «перабудова», а «паскарэнне».

«Рэфарматарам» супрацьстаяць «ахоўнікі», значна больш шматлікія. Сюды ўмоўна аднясем прамыслова-аграрнае лобі ва ўрадзе (віцэ-прэм'ер Уладзімір Сямашка, міністр сельскай гаспадаркі Леанід Заяц, віцэ-прэм'ер Міхаіл Русы, якіх падтрымлівае Мясніковіч з пасады спікера Нацыянальнага сходу), кіраўнікоў галіновых дзяржканцэрнаў («Белдзяржхарчпрам», «Беллегпрам» і іншых), а таксама ўсіх кіраўнікоў сілавых ведамстваў. Менавіта з падачы «ахоўнікаў» кіраўнік Беларусі запэўнівае публіку ў нязменнасці эканамічнай мадэлі.

**Беларусь ужо страціла магчымасць перабіраць. Трэба або пагаджацца на ўмовы крэдытораў, выгандлёўваючы саступкі, або сыходзіць у доўгую хвалю крызісу**

Пакуль «ахоўнікаў» падтрымлівае і мясцовая ўлада. Не выпадкова, мусіць, Снапкоў на «Кастрычніцкім эканамічным форуме» (KEF-2015) заявіў: «Сёння вертыкаль улады, якая некалі фармавалася як адзін з асноўных элементаў структуры грамадства, ужо не дае таго эфекту, які можна было чакаць. Чыннік гэтага — раз'яднанасць мэтаў паміж урадам, міністэрствам, аблвыканкамам, раёнам».

Крыху раней Кірыл Руды моцна раскрытыкаваў «ручную мадэль» кіравання эканомікай. А на KEF-2015 ён заявіў: «У апошнія гады ва ўрадзе і Нацбанку адбылася змена пакаленняў, і з 2013 года органы ўлады, незалежна ад таго, хто іх узначальвае, стала распрацоўваюць праграмы рэформаў». Такая заява дорага каштуе!

## Няма рэформаў — няма грошай

Між тым, у «рэфарматараў» ёсць важкі аргумент: і МВФ, і Еўразійскі фонд стабілізацыі і развіцця (ЕФСР) гатовыя выдаць крэдыты Беларусі, але толькі пад рэформы. Пры ўмовах узмацнення жорсткасці грашова-крэдытнай палітыкі (кантроль за друкарскім станком) і змены структуры эканомікі (скарачэнне долі і ролі дзяржавы ў эканоміцы).

А Беларусь ужо страціла магчымасць перабіраць варыянты. Трэба або пагаджацца на ўмовы крэдытораў, выгандлёўваючы сабе невялічкія саступкі, або сыходзіць у доўгую хвалю крызісу. Гледзячы па ўсім, кіраўніцтва краіны абрала першы варыянт. І абвешчаная ў 2016 годзе дэнамінацыя таму пацвярджэнне — без цвёрдай грашова-крэдытнай палітыкі і досыць высокіх ЗВР гэтая задума бессэнсоўная.

Аднак «для народа» рыторыка застаецца ранейшай: сацыяльная дзяржава, дапамога пенсіянерам, аграрыям, жанчынам з дзецьмі і ўсім іншым, да каго дацягнецца дзяржаўны клопат. Непадвышэнне тарыфаў на ЖКГ і на транспарт, працяг стрымлівання коштаў.

У сваёй прамове кіраўнік Беларусі цвёрда прайшоўся па прыхільніках зменаў ва ўласным асяроддзі: «Рэфарматары пхаюць мяне на рэформы: «Глядзіце, які рэйтынг даверу! Амаль увесь народ за прэзідэнта! Давай хуценька правядзем рэформы! Давай рэзаць па жывым!». Я ім адказваю: пачнём рэзаць з тых, хто гэта прапаноўвае. Так не пойдзе!». Аднак звярніце ўвагу: пакуль нікога з «рэфарматараў» Лукашэнка са свайго асяроддзя не выгнаў і нават публічна не вылупцаваў. Больш за тое, у асабістых зносінах з імі я асаблівага засмучэння ў «рэфарматараў» не заўважаю.

Зараз падчас перамоў з дэлегацыяй МВФ у Мінску ўрад спрабуе прадэманстраваць міжнародным фінансістам сваю прыхільнасць рэфармаванню эканомікі. І адначасова — па магчымасці зрэтушаваць «антырэфарматарскія» выказванні свайго лідара.

## Калі мы станем жыць горш?

Ніхто з «рэфарматараў» не хавае, што мінімум першыя два гады рэформ людзям жыць будзе цяжка. Прыбыткі абрынуцца, тарыфы на ЖКГ вырастуць, з нерэнтабельных прадпрыемстваў будуць масава звальняць працаўнікоў. Так было ва ўсіх краінах — і таму там часта змяняліся ўрады. Каму хапіла імпэту давесці рэформы да канца, сёння жывуць добра (Польшча, Чэхія, Славакія, Эстонія). Хто «здзьмуўся» і пайшоў на кампрамісы, ніяк не выкараскаецца з чаргі крызісаў (Балгарыя, Румынія, Латвія).

Але вось парадокс: менавіта цяпер улада дэманструе моцную ўпэўненасць у тым, што прынамсі ў 2016-м беларуская эканоміка будзе стабільнай. Чаму кіраўніцтва краіны ўпэўненае ў гэтай фінансавай стабільнасці?

Для гэтага ёсць свае чыннікі. Па-першае, у Мінску пачала працу місія МВФ. Да 19 лістапада эксперты фонду ацэняць падрыхтаванасць беларускіх уладаў да рэфармавання эканомікі. Калі ацэнка будзе добрай, Беларусь можа разлічваць на крэдыт у $3 мільярды.

Папярэдні крэдыт па праграме stand-by на $3,46 мільярда МВФ выдаў Беларусі ў 2009 годзе, і нашая краіна па ім цалкам расплацілася. Пры гэтым МВФ выдае крэдыты па стаўцы 2,5–3% гадавых, што, безумоўна, вельмі выгадна для Беларусі. Для параўнання: у 2014 годзе Расія выдала Беларусі міждзяржаўны крэдыт па стаўцы 4% гадавых.

Таксама нядаўна стала вядома, што ўрад Расіі вырашыў замарозіць экспартную мыту на нафту. Раней «падатковы манеўр» Расіі прадугледжваў паніжэнне мытнага каэфіцыента з 42% да 36%. Гэта прывяло б да росту коштаў на нафту пры пастаўцы ў Беларусь. Тое, што ранейшыя каэфіцыенты захаваюцца, дазволіць павялічыць прыбыткі беларускага бюджэту.

Нарэшце, для кіраўніцтва Беларусі захоўваецца магчымасць «нечакана» пагадзіцца на размяшчэнне ў краіне расійскай авіябазы — і атрымаць за гэта немалыя фінансавыя бонусы.

Пэўна, не выпадкова Кірыл Руды свой выступ на KEF-2015 назваў крыху правакацыйна: «Чаму рэформы не атрымаюцца (у Беларусі ў 2016 годзе)». Гледзячы на тое, што адбываецца, цяперашняя сацыяльна-эканамічная мадэль будзе замарожаная прыкладна на год. А структурныя рэформы ў эканоміцы будуць запускацца ледзьве не патаемна, з максімальным адцягненнем іх уздзеяння на штодзённае жыццё беларусаў. І, паўтаруся, называцца яны будуць неяк па-іншаму.

Гэтым артыкулам мы пачынаем серыю пад назвай «Я працаваў па размеркаванні». Час ад часу мы будзем прапаноўваць вашай увазе аповеды пра маладых спецыялістаў, якія сталі закладнікамі нашай нібыта бясплатнай адукацыі. Спадзяемся, што гэта будуць не толькі жахлівыя гісторыя, але і артыкулы пра тое, як людзі знайшлі сваё шчасце ці прызванне.

# Ветэрынар: як выжыць і не страціць веру ў прафесію

Вікторыя ЧАПЛЕВА

**Куды звычайна пасылаюць на адпрацоўку маладога спецыяліста-ветэрынара? Большасць адразу адкажа, што іх накіроўваюць на вясковыя фермы, каб «каровам хвасты круцілі». Але, аказваецца, ветэрынар — прафесія шырокага профілю.**

### Чаго толькі ні зробіш, каб застацца ў горадзе!

Жэня — выпускніца Віцебскай ветэрынарнай акадэміі, якая прыехала на вучобу з Брэста. На яе выбар прафесіі паўплывала старэйшая сястра, якая вучылася на мікрабіёлага. Паступаючы ў ветэрынарную акадэмію як у адзіную ўстанову ў Беларусі, дзе можна атрымаць гэту спецыяльнасць, Жэня марыла адкрыць сваю ветэрынарную клініку. Ну, а пра тое, што абавязковае размеркаваннеператворыцца для яе ледзь не ў катаргу, дзяўчына нават і падумаць не магла.

Першапачаткова Жэню размеркавалі ў Драгічынскі раён Брэсцкай вобласці. Пасля таго, як яна дабіралася да сваёй працоўнай глыбінкі дызелем, аўтобусам і ў дадатак яшчэ і спынам, дзяўчына, вярнуўшыся дадому, у слязах заявіла маці, што ні ў якім разе працаваць у гэтай вёсцы не будзе. Па словах Жэні, уся вёска ўяўляла сабой некалькі драўляных хат, дзе ад адной да другой валэндаліся нецвярозыя мужчыны. Пражыўшы ўсё жыццё ў горадзе, Жэня вырашыла, што, калі застанецца ў гэтай вёсцы, проста загіне.

Маці пайшла на сустрэчу да мэра, пасля якой дзяўчыну пераразмеркавалі ў Жабінкаўскі раён. «Але я хацела працаваць менавіта ў Віцебску, — дзеліцца дзяўчына, — таму я фіктыўна выйшла замуж за свайго віцебскага сябра. Так мяне і пакінулі тут».

### Што рабіць, калі падначаленыя — былыя зэкі?

Прадпрыемства, куды накіравалі Жэню, займаецца перапрацоўкай мяса, яго выкупіла адно акцыянернае таварыства (мы наўмысна не называем гэта прадпрыемства, бо не маем дакументальных пацверджанняў фактаў, пра якія распавяла дзяўчына, — рэд.). Жэня працавала там ветэрынарным лекарам і ветэрынарным санітарным экспертам.

Працоўны дзень маладога спецыяліста пачынаўся з доўгай дарогі на прадпрыемства, якое знаходзіцца за горадам. Гадзіна на аўтобусе і два кіламетры пешшу ўздоўж трасы — вось яе штодзённы шлях да працы. Пераапрануўшыся, Жэня прыступала да справы. Яна правярала прывезеных на прадпрыемства жывёл — кароў і быкоў. Калі з імі было ўсё ў парадку, то дзяўчына давала згоду на забой.

Спачатку была перадубойная вытрымка, якая займала дзесьці каля чатырох гадзін. Пасля, калі страўнік жывёл спусташаўся, пачынаўся працэс забою, які ажыццяўлялі тры забойшчыкі. Спачатку быка аглушалі токам у вока з дапамогай спецыяльнага цвіка. Бык адразу не паміраў і ўсё адчуваў. Далей пачынаўся працэс «абяскроўлення». Жывёліну падвешвалі за заднія ногі і ўскрывалі ёй сонную артэрыю. Самае галоўнае ў такіх аперацыях — гэта адсутнасць пухлін і лою. Далей з жывёл здымалі скуру, а пасля распорвалі чэрава.

Пасля Жэня разглядала ўнутраныя органы жывёл — сэрца, пячонку, селязёнку, лёгкія, трахею, язык. Усё гэта забойшчыкі развешвалі на крукі. Калі на органах не было ніякіх паталагічных змяненняў, то Жэня адпраўляла мяса на «распіл», пасля якога атрымоўвалася два кумпякі і лапаткі. Калі ўсё было гатова, Жэня ставіла таўро на лядоўню, дзе захоўвалася мяса, якое на наступны дзень развозілася па крамах.

Вось такія вясёлыя карцінкі штодня назірала дзяўчына. Вось табе і ветэрынарная клініка...

У абавязкі маладога спецыяліста ўваходзіў яшчэ і кантроль за дэзінфекцыяй. Але гэтай важнай часткі працэсу на прадпрыемстве не існавала: «Дэзынфекцыю наўпрост ніхто не рабіў, — распавядае Жэня. — Я рабіла яе сама, бо дабівацца чагосьці ад тых жа «байцоў» было бессэнсоўна. Тым больш, я працавала з двума мужчынамі, якія адсядзелі ў калоніі. І мне, дзяўчыньі пасля ўніверсітэта, трэба было імі кіраваць. Спачатку яны не ўспрымалі мяне ўсур'ёз. На працягу маёй адпрацоўкі я не крычала на іх, не качала свае правы, а намагалася спакойна казаць пра іх абавязкі. Часам у мяне гэта не атрымлівалася. У выніку мне прыходзілася выконваць, акрамя сваёй працы, яшчэ і іх».

### Праца без грошай, святла і каналізацыі

Заробак маладога спецыяліста вагаўся каля двух з паловай мільёнаў. Гэты скарб трэба было размеркаваць так, каб хапіла на аплату здымнага пакою, які каштаваў 100 долараў, ды яшчэ хапіла на праезд, харчы да іншыя неабходныя рэчы. Інтэрнат ад працы яна атрымаць не магла, бо лічылася дзяўчынай замужняй, адпаведна, жыллём павінна была сябе забяспечваць сама. Пэўны час ёй даводзілася штомесяц выплачваць крэдыт за мабільны тэлефон. На ежу ў дзяўчыны заставалася каля васьмісот тысяч рублёў. Грошай не хапала, таму Жэня стала харчавацца ў асноўным адными яблыкамі. У выніку пры росце 170 яна стала важыць 48 кілаграмаў. Знаёмым, якія сталі цікавіцца, чаму яна так рэзка схуднела, Жэня адказвала, што стала захапляцца сыраедствам. І толькі зараз дзяўчына прызналася, што насамрэч у яе наўпрост не было грошай.

Хтосьці скажа, што можна было харчавацца амаль дармовым мясам. Але пасля таго, як дзяўчына ўбачыла, адкуль гэта мяса бярэцца, ялавічына ёй у горла не палезла б.

А яшчэ Жэня расказвае, што на прадпрыемстве, дзе яна працавала, можна і не быць ветэрынарным санітарным экспертам, каб заўважыць элементарныя парушэнні. Натуральна, каб прадпрыемства функцыянавала па ўсіх нормах, патрэбны былі грошы. І, здаецца, яны былі, але замест забеспячэння добрых працоўных умоў, кіраўніцтва рабіла рамонт у сваіх кабінетах або набывала новыя службовыя машыны. А работнікам нават не вылучалі грошай на сродкі дэзінфекцыі. Пасля забою, калі ўсё вакол знаходзілася ў крыві, трэба было элементарна паправаць працоўную вопратку. І работнікі набывалі парашок за свае грошы.

Напэўна, Жэня не той чалавек, які можа змаўчаць і праглынуць несправядлівасць. Калі раптоўна ўрэзалі заробак так, што грошай не хапала ўжо, каб здымаць жыллё, дзяўчына вырашыла ісці ў інспекцыю працы, каб даведацца, ці парушае працадаўца яе правы. Перад гэтым дзяўчына падышла да кіраўніка, патлумачыўшы, што ёй няма за што жыць, і запытала: «Чаму вы так рэзка ўрэзалі заробак?», на што атрымала адказ: «А ты мне такія філасофскія пытанні не задавай. Наогул, калі некуды пойдзеш скардзіцца, памятай, што ў мяне ёсць свае нітачкі, за якія я магу падзёргаць». Але ў інспекцыю працы Жэня ўсё ж такі схадзіла, праўда, безвынікова. Там ёй патлумачылі, што па ўсёй Віцебскай вобласці на той момант панавала такая сітуацыя з працай. Ёй прапанавалі сысці і знайсці сабе лепшае месца.

**«Там было жахліва халодна, — узгадвае Жэня, — я насіла целагрэйку і бегала кругамі, каб хоць неяк сагрэцца. Душ там таксама не працаваў. А ў прыбіральню так наогул лепш было не заходзіць! Ваду ва ўнітаз мы залівалі вёдрамі, бо сантэхніка не працавала»**

Два месяцы людзі працавалі без святла. Яго адключылі, бо кіраўніцтва не плаціла за яго. «А яшчэ там было жахліва халодна, — узгадвае Жэня, — я насіла целагрэйку і бегала кругамі, каб хоць неяк сагрэцца. Душ там таксама не працаваў. А ў прыбіральню так наогул лепш было не заходзіць! Ваду ва ўнітаз мы залівалі вёдрамі, бо сантэхніка не працавала».

Не дзіўна, што кіраўніцтва замоўчвала і інцыдэнты з некаторымі забойшчыкамі. Жэня называе іх «надзвычай агрэсіўнымі». На пытанне, пра тое, у чым праяўлялася іх агрэсія, дзяўчына намагалася пераадолець сябе, каб прывесці прыклады. Але сказала толькі тое, што адзін з іх кідаўся з нажом на работніка. Болей расказваць нічога не стала са словамі: «Яны ж былыя зняволеныя... А раптам што здарыцца...»

### Куды пайсці з дыпломам ветэрынара?

Пасля двух гадоў размеркавання на прадпрыемстве, Жэня звольнілася. Працу ў Віцебску па спецыяльнасці дзяўчына не знайшла. Прыйшлося ўсё ж вярнуцца ў Брэст, дзе пачаліся карпатлівыя пошукі працы ва ўсіх установах, якія былі звязаныя з ветэрынарнай медыцынай.

Але нядаўна Жэня ўсё ж такі знайшла сабе працу. Зараз яна — дзяржаўны ветэрынарны інспектар. Дзяўчына ездзіць па фірмах, прадпрыемствах, аптэках, мясакамбінатах, дзе праводзіць праверку абсталявання, лекаў, працоўных умоў. Працуючы ў дзяржаўнай установе зараз, Жэня атрымлівае каля чатырох мільёнаў рублёў.

«Зараз, калі ад таго жаху засталіся адны ўспаміны, магу сказаць з упэўненасцю, што я ні пра што не шкадую, — кажа Жэня. — Я прайшла праз такія цяжкасці, але ўрэшце знайшла сабе добрую працу па спецыяльнасці. Людзей, якія вытрымалі два гады катаргі, ахвотна бяруць пасля на працу. Часам патрэбна проста перачакаць. А яшчэ я дагэтуль мару адкрыць сваю ветэрынарную клініку. Скажу болей — маленькімі крокамі я набліжаюся да яе. І думаю, што ў мяне ўсё атрымаецца».



TV

## 16 ЛІСТАПАДА, ПАНЯДЗЕЛАК

### 1 Беларусь

**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.00** Навіны.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00** Навіны.
**09.10** Галоўны эфір.
**10.05** Клуб рэдактараў.
**10.45** Меладрама «Добрае імя».
**11.00** 90 секунд.
**11.40** Меладрама «Мамчына каханне».
**12.00** Навіны.
**13.00** 90 секунд.
**13.40** Меладрама «Каханне без лішніх словаў».
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**16.00** 90 секунд.
**15.50** Меладрама «Каханне без лішніх словаў».
**17.40** Беларуская часіна.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Арэна.
**19.40** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладрама «Добрае імя».
**21.00** Панарама.
**21.45** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.15** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**23.35** Навіны.
**23.55** Дзень спорту.
**00.00** Меладрама «Багатая Маша -2».

### Н

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** Контуры.
**10.00** «Жыць здарова!».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.55** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** Сам-насам з усімі.
**15.05** Час пакажа.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Час пакажа.
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Зваротны адлік.
**18.55** Чакай мяне.
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Справа прынцыпу.
**22.15** Мастацкі фільм «Графіці».
**01.15** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.25** «Вялікі сняданак».
**10.05** «Далёкія сваякі».
**10.40** Званая вячэра.
**11.30** «24 гадзіны».
**11.35** Сямейныя драмы.
**12.30** Не хлусі мне!
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Ведай нашых!
**14.40** Такі лёс.
**15.25** Вадзіць па-руску.
**15.10** Іншая краіна.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** Вялікі горад.
**17.25** «Міншчына».
**17.35** «Званая вячэра».
**18.35** «Самыя шакавальныя гіпотэзы».
**20.15** «Ваенная таямніца».
**20.55** «СТБ спорт».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ спорт».
**23.00** «Тыдзень спорту».
**23.30** «Месяц у бутэльцы».
**01.05** «Дакументальны праект».

### 2 Беларусь

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** «Арол і рэшка. Шопінг». Пазнавальнае шоў Украіна.
**10.05** Тэлебарометр.
**10.35** Серыял «Сябры анёлаў».
**11.25** Азбука густу.
**12.05** Панаехалі.
**13.10** Іранічны дэтэктыў «Метад Фрэйда» (Расія).
**15.10** Меладрама «Матчын інстынкт».
**17.00** Перазарузка.
**17.55** Прыгодніцкі серыял «Бафі - знішчальніца вампіраў» (ЗША).
**19.05** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** Экстрасэнсы-дэтэктывы.
**21.35** КЕНА.
**22.15** «Арол і рэшка». Пазнавальнае шоў Украіна.
**23.10** Рэпарцёр.
**00.00** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**00.50** Меладрама «Матчын інстынкт».

### 3 Беларусь

**07.15** «Дабраранак».
**07.40** «Сусветная карцінная галерэя».
**07.55** «Калейдаскоп».
**08.10** «Узрост кахання». Музычная меладрама (Аргенціна, 1954 г.).
**09.55** Хіт-парад «Сто песень для Беларусі».
**10.45** «Наперад у мінулае».
**11.15** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**11.45** «Музеі Беларусі». Музей Беларускага Палесся.
**12.15** Прэм'ера. «Святло далёкай зоркі». Памяці сцэнарыста, рэжысёра Алега Белавусава.
**12.40** «Калейдаскоп».
**12.55** «Размаўляем па-беларуску».
**13.00** «Табар ідзе ў неба». Музычная драма (СССР, 1976 г.).
**14.35** «Справы фамільныя». «Трамвайны марш».
**15.05** «Шапка». Сатырычная камедыя (СССР, 1990 г.).
**16.30** «Калейдаскоп».
**16.45** «Размаўляем па-беларуску».
**16.50** «Канстанцін Заслонаў». Гераічная кінааповесць (СССР, 1949 г.).
**18.05** «Партызаны». Канстанцін Заслонаў.
**18.30** «На сямі вятрах». Ваенная драма (СССР, 1962 г.).
**20.10** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**20.40** «Калыханка».
**21.00** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**21.35** «Чалавек з чорнай «Волгі». Крымінальная драма (СССР, 1990 г.).
**23.10** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**23.40** «Калейдаскоп».
**23.55** «Геапалітыка: свет за тыдзень».

### 5 Беларусь

**07.25** PRO спорт. Вынікі.
**07.35** Баскетбол. Адзіная ліга ВТБ. Лакаматыў-Кубань - Ніжні Ноўгарад.
**09.10** Авертайм.
**09.40** Хакей. КХЛ. Спартак - Сочы.
**11.35** Баскетбол. НБА. Мілўокі - Кліўленд.
**13.10** Хакей. Металург - Нёман.
**15.05** Самба. Чэмпіянат свету.
**16.40** Баскетбол. НБА. Мінэсота - Мэмфіс.
**18.20** Час футболу.
**19.00** PRO спорт. Навіны.
**19.10** Авертайм. КХЛ.
**19.25** Хакей. КХЛ. Дынама - Віцязь.
**21.55** Гандбол. SEHA-ліга.
**23.25** PRO спорт. Навіны.
**23.55** Еўрапейскі покерны тур.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**07.35** Зона «Свабоды».
**08.10** Людскія справы.
**08.50** Два на два (тэледыскусія): Генадзь Сагановіч і Генадзь Семянчук: Беларускі погляд на гісторыю: ці можна быць добрымі для ўсіх?
**09.20** Забытыя ў Пхеньяне, д/ф.
**10.20** Мова нанова: Дзеткі.
**10.40** Эксперт (сатырычная праграма).
**11.10** ПраСвет.
**11.50** Зона «Свабоды».
**12.25** Невядомая Беларусь: Зоська Верас. 1892–1991, д/ф.
**13.00** Кінаклуб: «У тумане».
**13.15** У тумане, м/ф.
**15.15** Сведкі: Дзяды.
**15.30** Mad Men. Утрапёныя IV, серыял.
**16.20** «Google» і Усясветны мозг, д/ф.
**17.50** Мова нанова: Дзеткі.
**18.10** Над Нёманам (тэлечасопіс).
**18.30** Студыя «Белсат».
**18.45** Людскія справы.
**19.30** Студыя «Белсат».
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.40** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**22.05** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Алена Сідарава.
**22.40** Кінаклуб: «У тумане».
**22.50** У тумане, м/ф.
**00.50** Студыя «Белсат».

## 17 ЛІСТАПАДА, АЎТОРАК

### 1 Беларусь

**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.00** Навіны.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00** Навіны.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**10.00** 90 секунд.
**11.00** Меладрама «Добрае імя».
**12.00** Навіны.
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы - 6».
**13.00** 90 секунд.
**13.10** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Сямейная сага «Зроблена ў СССР» (Расія).
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Дэтэктыўны серыял «Чорныя коткі» (Расія).
**16.00** 90 секунд.
**16.35** Серыял «Сямейныя меладрамы - 6».
**17.35** Беларуская часіна.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладрама «Добрае імя».
**21.00** Панарама.
**21.45** Буйным планам.
**22.15** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.50** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**23.50** Сфера інтарэсаў.
**00.05** Навіны.
**00.25** Дзень спорту.
**00.55** Крымінальная меладрама «Зоя».

### Н

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** Сам-насам з усімі.
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.20** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Татавы дочкі».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Гістарычная драма «Вялікая».
**22.50** Камедыя «Оптам танней».



**00.35** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Салодкі лістапад».
**10.15** Далёкія сваякі.
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** Званая вячэра.
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Наша справа».
**14.05** «Мае цудоўныя..».
**15.00** «Халасцякі». Серыял.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Цэнтральны рэгіён».
**17.25** «Міншчына».
**17.35** «Званая вячэра».
**18.35** «Дакументальны праект».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ спорт».
**20.15** Тэрыторыя памылкі.
**22.00** Глядзець усім!
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ спорт».
**23.00** «Простыя пытанні».
**23.20** «Аўтапанарама».
**23.40** «Халасцякі». Серыял.
**01.05** «Дакументальны праект».

### 2 Беларусь

**08.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** «Арол і рэшка. На краі свету». Пазнавальна-забаўляльнае шоў (Украіна).
**10.05** Капейка ў капейку.
**10.30** Трылер «Закрытая школа».
**11.30** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**12.30** Экстрасэнсы-дэтэктывы.
**13.35** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**15.30** «Пін_код». Інтэрактыўны праект.
**16.20** Трылер «Закрытая школа».
**17.00** «Пін_код». Інтэрактыўны моладзевы праект.
**17.55** Пульс.
**18.15** Адзін дзень з жыцця.
**18.35** Усёзнайка.
**19.05** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** Экстрасэнсы-дэтэктывы.
**22.05** Спортлато 6 з 49, КЕНА.
**22.15** «Арол і рэшка. На краі свету». Пазнавальна-забаўляльнае шоў (Украіна).
**23.10** «Пін_код». Інтэрактыўны праект.
**00.00** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**00.50** Серыял «У эфіры».

### 3 Беларусь

**07.15** «Дабраранак».
**07.40** «Сусветная карцінная галерэя».
**07.55** «Калейдаскоп».
**08.10** «Чалавек на каленях». Драма (Італія, 1980 г.).
**09.55** «Гітара па крузе». Яўген Пальцаў, сцэнарыст, паэт.
**10.50** «Свет прыроды». Воўк па мянушцы Тэр.
**11.05** «Калейдаскоп».
**11.20** «Размаўляем па-беларуску».
**11.25** «Чалавек з чорнай «Волгі». Крымінальная драма (СССР, 1990 г.).
**13.05** «Святло далёкай зоркі». Памяці акцёра Уладзіміра Кін-Камінскага.
**13.30** «Рыбная крама Ямаха». Драма.
**15.05** Міжнародны фестываль Юрыя Башмета. П.І.Чайкоўскі «Яўген Анегін». Музычна-драматычная пастаноўка ў аўтарскай версіі Юрыя Башмета.
**16.50** «Калейдаскоп».
**17.05** «Размаўляем па-беларуску».
**17.10** «Сірано дэ Бержарак». Музычная драма (ЗША, 1950 г.).



**19.00** «Чырвонае і чорнае». Гістарычная драма. 1-я серыя (СССР, 1976 г.).
**20.10** «Дыя@блог». «Пра мову».
**20.40** «Калыханка».
**21.00** «Імпульс Алфёрава». Фільм першы «Сем дзён аднаго года».
**21.55** «Чырвонае і чорнае». Гістарычная драма. 2-я серыя (СССР, 1976 г.).
**23.15** «Дыя@блог». «Пра мову».
**23.40** «Святло далёкай зоркі». Памяці акцёра Уладзіміра Кін-Камінскага.
**00.05** «Калейдаскоп».

### 5 Беларусь

**07.35** PRO спорт. Вынікі.
**07.55** Час футболу.
**08.35** Хакей. КХЛ. Дынама - Віцязь.
**10.30** Баскетбол. Адзіная ліга ВТБ. Астана - Цмокі.
**12.10** Валейбол. Мінчанка - АЕК.
**14.10** Самба. Чэмпіянат свету.
**15.45** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**17.45** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Агляд тура.
**16.15** Гандбол. SEHA-ліга.
**17.45** Спорт-кадр.
**18.15** PRO спорт. Навіны.
**18.25** Футбол. Еўра-2017. U-21. Беларуь - Кіпр.
**20.30** Хакей. СКА - Авангард.
**22.25** PRO спорт. Навіны.
**22.40** Баскетбол. Адзіная ліга ВТБ.
**00.20** Еўрапейскі покерны тур.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.15** Людскія справы.
**08.00** Студыя «Белсат».
**10.10** Асабісты капітал.
**10.30** Зоры не спяць: Алена Сідарава.
**11.05** 2 бубачкі, м/ф.
**12.35** Студыя «Белсат».
**12.55** Людскія справы.
**13.35** Студыя «Белсат».
**15.50** Асабісты капітал.
**16.15** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Алена Сідарава.
**16.45** Ратаўнікі, серыял.
**17.30** Эксперт (сатырычная праграма).
**18.00** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**18.30** Студыя «Белсат».
**19.00** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**19.30** Студыя «Белсат».
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.40** Два на два (тэледыскусія).
**22.15** Афрыканскае даміно, рэпартаж, 2015 г., Беларусь.
**22.30** «Google» і Усясветны мозг, д/ф.
**00.05** Студыя «Белсат».

TV

## 18 ЛІСТАПАДА, СЕРАДА

### Беларусь 1

**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.00** Навіны.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00** Навіны.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**10.00** 90 секунд.
**11.00** Меладрама «Добрае імя».
**12.00** Навіны.
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы - 6».
**13.00** 90 секунд.
**13.10** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Сямейная сага «Зроблена ў СССР» (Расія).
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Крымінальная меладрама «Зоя».
**16.35** Серыял «Сямейныя меладрамы - 6».
**17.35** Беларуская часіна.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Нашы.
**19.35** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладрама «Добрае імя».
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**22.05** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.55** Сфера інтарэсаў.
**00.15** Навіны.
**00.30** Дзень спорту.
**00.45** Крымінальная меладрама «Зоя».

### ОНТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.55** Модны прысуд.
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** Сам-насам з усімі.
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.20** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**16.20** КВЗ.
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Татавы дочкі».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Гістарычная драма «Вялікая».
**22.50** Фільм «Брубейкер».



**01.10** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Ад 180 і вышэй».
**10.15** Далёкія сваякі.
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** Званая вячэра.
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Наша справа».
**14.05** «Ежа багоў».
**14.50** «Халасцякі». Серыял.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Мінск і мінчане».
**17.25** «Міншчына».
**17.35** «Званая вячэра».
**18.35** «Дакументальны праект».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ спорт».
**20.15** «Паралельныя сусветы».
**22.00** Глядзець усім!
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ спорт».
**23.00** «Простыя пытанні».
**23.20** «Халасцякі». Серыял.
**00.50** «Сакрэтныя тэрыторыі».

### Беларусь 2

**08.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** «Арол і рэшка. На краі свету». Пазнавальна-забаўляльнае шоў (Украіна).
**10.30** Трылер «Закрытая школа».
**11.30** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**12.30** Экстрасэнсы-дэтэктывы.
**13.30** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**15.30** «Пін_код». Інтэрактыўны моладзевы праект.
**16.20** Трылер «Закрытая школа».
**17.00** «Пін_код». Інтэрактыўны моладзевы праект.
**17.55** Адкрыты пытанне.
**18.25** Літаратар.
**18.40** Тайм-аўт.
**19.05** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**21.10** Экстрасэнсы-дэтэктывы.
**21.25** Тэлебарометр.
**22.05** Спортлато 5 з 36, КЕНА.
**22.10** «Арол і рэшка. На краі свету». Пазнавальна-забаўляльнае шоў (Украіна).
**23.05** «Пін_код». Інтэрактыўны моладзевы праект.
**23.45** Футбол.
**00.00** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**00.45** Серыял «У эфіры».

### Беларусь 3

**07.15** «Дабраранак».
**07.40** «Сусветная карцінная галерэя».
**07.55** «Калейдаскоп».
**08.10** «Чырвонае і чорнае». Гістарычная драма. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1976 г.).
**10.45** «Імпульс Алфёрава». Фільм першы «Сем дзён аднаго года».
**11.40** «Міколка-паравоз». Прыгодніцкі фільм (СССР, 1956 г.).
**13.05** «Святло далёкай зоркі». Памяці народнага пісьменніка Беларусі Міхася Лынькова.
**13.35** «Калейдаскоп».
**13.50** «Размаўляем па-беларуску».
**13.55** «Сірано дэ Бержарак». Музычная драма (ЗША, 1950 г.).
**15.45** Міжнародны фестываль Юрыя Башмета. Вечар венскай класікі.
**16.40** «У гасцях у Барыса Аверына». Сустрэча з празаікам, драматургам Сяргеем Носавым.
**17.10** «Калейдаскоп».
**17.25** «Размаўляем па-беларуску».
**17.30** «Міколка-паравоз». Прыгодніцкі фільм (СССР, 1956 г.).
**19.00** «Чырвонае і чорнае». Гістарычная драма. 3-я серыя (СССР, 1976 г.).
**20.10** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**20.40** «Калыханка».
**21.00** «Імпульс Алфёрава». Фільм другі «Каманда».
**21.55** «Чырвонае і чорнае». Гістарычная драма. 4-я серыя, заключная (СССР, 1976 г.).
**23.05** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**23.35** «Гараж». Камедыя (СССР, 1979 г.).
**01.10** «Калейдаскоп».

### Беларусь 5

**07.35** PRO спорт. Навіны.
**07.50** Баскетбол. НБА. Маямі - Мінесота.
**09.30** Спорт-кадр.
**10.05** Хакей. КХЛ. СКА - Авангард.
**12.00** Баскетбол. Адзіная ліга ВТБ.
**13.40** Свет англійскай прэм'ер-лігі.
**14.10** Самба. Чэмпіянат свету.
**15.50** Футбол. Еўра-2017. U-21. Беларусь - Кіпр.
**17.50** Козел пра футбол.
**18.10** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў.
**18.45** PRO спорт. Навіны.
**18.55** Баскетбол. Кубак ФІБА.
**20.50** Баскетбол. SEHA-ліга. Заграб - БГК імя. Мяшкова.
**22.25** PRO спорт. Навіны.
**22.40** Баскетбол. НБА. Маямі - Мінесота.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.30** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**08.00** Студыя «Белсат».
**10.10** Два на два (тэледыскусія).
**10.45** Афрыканскае даміно, рэпартаж.
**11.00** Бранзалет свабоды, д/ф.
**11.20** Загадкі беларускай гісторыі: Таямніца Францішка Багушэвіча.
**11.35** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**11.55** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**12.25** Студыя «Белсат».
**12.55** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**13.25** Студыя «Белсат».
**15.35** Два на два (тэледыскусія).
**16.05** Афрыканскае даміно, рэпартаж.
**16.20** «Google» і Усясветны мозг, д/ф.
**17.55** Зоры не сляць: Алена Сідарава.
**18.30** Студыя «Белсат».
**18.55** Асабісты капітал.
**19.20** Гісторыя пад знакам Пагоні: Пачатак суперніцтва паміж Вільняю і Масквою.
**19.30** Студыя «Белсат».
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.40** Маю права (юрыдычная праграма).
**22.05** 54%: Мама шчаслівая, але не ідэальная.
**22.25** Людскія справы.
**23.10** Эксперт (сатырычная праграма).
**23.45** Парадокс, серыял.
**00.25** Студыя «Белсат».

## 19 ЛІСТАПАДА, ЧАЦВЕР

### Беларусь 1

**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.00** Навіны.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00** Навіны.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.00** Меладрама «Добрае імя».
**12.00** Навіны.
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы 6».
**13.10** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Сямейная сага «Зроблена ў СССР» (Расія).
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Прыгодніцкі баявік «Залаты капкан» (Расія).
**16.35** Серыял «Сямейныя меладрамы 6».
**17.35** Беларуская часіна.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладрама «Шчаслівчык Пашка».
**21.00** Панарама.
**21.45** Спецыяльны рэпартаж.
**22.00** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.50** Сфера інтарэсаў.
**00.45** Навіны.
**00.35** Дзень спорту.
**00.40** Прыгодніцкі баявік «Залаты капкан» (Расія).

### ОНТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** Неслужбовыя раман.
**10.05** Камедыя «Службовы раман».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** Сам-насам з усімі.
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.20** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Татавы дочкі».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Трэба разабрацца.
**21.30** Гістарычная драма «Вялікая».
**23.15** Трылер «Калектыўны пазоў».



**01.10** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Паралельныя сусветы».
**10.05** Сардэчна паскардзіцца.
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** Дакументальны праект.
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Ежа багоў».
**14.50** «Халасцякі». Серыял.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Культурная сталіца». Брэст.
**17.25** «Міншчына».
**17.35** «Званая вячэра».
**18.35** «Дакументальны праект».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ спорт».
**20.15** «Танец анёла».
**22.05** Глядзець усім!
**22.10** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ спорт».
**23.00** «Простыя пытанні».
**23.20** «Аўтапанарама».
**23.40** «Халасцякі». Серыял.
**01.10** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».

### Беларусь 2

**07.00** Раніца добрага дня.
**08.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** «Арол і рэшка. На краі свету». Пазнавальна-забаўляльнае шоў (Украіна).
**10.05** Капейка ў капейку.
**10.30** Трылер «Закрытая школа».
**11.35** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**12.30** «Экстрасэнсы-дэтэктывы». Дакументальны цыкл расследаванняў (Украіна).
**13.30** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**16.20** Трылер «Закрытая школа».
**17.00** «Пін_код». Інтэрактыўны моладзевы праект.
**17.55** Прыгодніцкі серыял «Бафі - знішчальніца вампіраў» (ЗША).
**19.05** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** «Экстрасэнсы-дэтэктывы». Дакументальны цыкл расследаванняў (Украіна).
**22.00** Спортлато 6 з 49, КЕНА.
**22.10** «Арол і рэшка. На краі свету». Пазнавальна-забаўляльнае шоў (Украіна).
**23.10** «Пін_код». Інтэрактыўны праект.
**00.00** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**00.45** Серыял «У эфіры».

### Беларусь 3

**07.15** «Дабраранак».
**07.40** «Сусветная карцінная галерэя».
**07.55** «Калейдаскоп».
**08.10** «Чырвонае і чорнае». Гістарычная драма. 3-я і 4-я, заключная серыі (СССР,1976 г.).
**10.35** «Імпульс Алфёрава». Фільм другі «Каманда».
**11.30** «Гараж». Камедыя (СССР, 1979 г.).
**13.10** «Святло далёкай зоркі». Памяці паэтэсы Яўгеніі Янішчыц.
**13.35** «Калейдаскоп».
**13.50** «Чорны цюльпан». Прыгодніцкі фільм (Францыя, Італія, Іспанія, 1963 г.).
**15.40** Міжнародны фестываль Юрыя Башмета. Урачыстае закрыццё.
**16.50** «Сіла веры».
**17.20** «Калейдаскоп».
**17.35** «Размаўляем па-беларуску».
**17.40** «Маша і звяры». Музычная казка (Расія, 1995 г.).
**18.45** «Слёзы капалі». Трагікамедыя (СССР, 1982 г.).
**20.10** «Дыя@блог». «Пра вечнае».
**20.40** «Калыханка».
**21.00** «Імпульс Алфёрава». Фільм трэці «Алфёраў ёсць Алфёраў».
**21.40** «Сачыненне да Дня Перамогі». Драма (Расія, 1998 г.).
**23.30** «Дыя@блог». «Пра вечнае».
**23.55** «Святло далёкай зоркі». Памяці паэтэсы Яўгеніі Янішчыц.
**00.20** «Калейдаскоп».

### Беларусь 5

**07.35** PRO спорт. Навіны.
**07.45** Баскетбол. НБА. Аклахома - Нью Арлеан.
**09.50** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў.
**10.15** Футбол. Еўра-2017. U-21. Беларусь - Кіпр.
**12.05** Змешаныя адзінаборствы.
**15.15** Баскетбол. Кубак ФІБА.
**16.55** Хакей. КХЛ. Металург - АкБарс.
**19.15** PRO спорт. Навіны.
**19.25** Хакей. КХЛ. СКА - Барыс.
**21.45** Баскетбол. НБА. Аклахома - Нью Арлеан.
**23.25** PRO спорт. Навіны.
**23.35** Формула-Е. Гран-пры Малайзіі.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.25** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**07.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Пачатак суперніцтва паміж Вільняю і Масквою.
**08.00** Студыя «Белсат».
**10.10** Маю права (юрыдычная праграма).
**10.30** 54 % (публіцыстычная праграма): Мама шчаслівая, але не ідэальная.
**10.50** Парадокс, серыял.
**11.35** Людскія справы.
**12.15** Студыя «Белсат».
**12.45** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**13.05** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Пачатак суперніцтва паміж Вільняю і Масквою.
**13.15** Студыя «Белсат».
**15.25** Маю права (юрыдычная праграма).
**15.45** 54 % (публіцыстычная праграма): Мама шчаслівая, але не ідэальная.
**16.05** Парадокс, серыял.
**16.50** Невядомая Беларусь: Зоська Верас. 1892–1991, д/ф.
**17.25** Людскія справы.
**18.10** Афрыканскае даміно, рэпартаж.
**18.30** Студыя «Белсат».
**18.55** Два на два (тэледыскусія).
**19.30** Студыя «Белсат».
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.40** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**22.10** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**22.40** «Кропка апоры», дакументальны фільм.
**23.40** Студыя «Белсат».

TV

## 20 ЛІСТАПАДА, ПЯТНІЦА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.00** Навіны.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00** Навіны.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.00** Меладрама «Добрае імя».
**12.00** Навіны.
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы 6».
**13.10** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Сямейная сага «Зроблена ў СССР» (Расія).
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Прыгодніцкі баявік «Залаты капкан» (Расія).
**16.40** Серыял «Сямейныя меладрамы 6».
**17.40** Зроблена ў Беларусі.
**18.00** Terra incognita. Беларусь невядомая.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Зона Х. Вынікі тыдня.
**20.00** Меладрама «Шчаслівы Пашка».
**21.00** Панарама.
**21.45** Зроблена ў Беларусі.
**21.55** Рэтра-меладрама «Рускае».
**23.45** Навіны.
**00.25** Дзень спорту.
**00.40** Прыгодніцкі баявік «Залаты капкан» (Расія).



### Н

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.05** «Вучыцца жыць».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.20** Мастацкі фільм «Справа была ў Пянькове».



**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Чакай мяне Беларусь.
**18.55** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.05** Мой бізнэс.
**22.50** Што? Дзе? Калі?
**00.20** Легенды Live.
**01.00** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Танец анёла».
**10.20** Далёкія сваякі.
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** Дакументальны праект.
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Ежа багоў».
**14.50** «Халасцякі». Серыял.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** Зялёны агурок.
**17.25** «Міншчына».
**17.35** «Званая вячэра».
**18.35** «Дакументальны праект».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ спорт».
**20.15** «Ашуканцы».
**22.10** Глядзець усім!
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ спорт».
**23.00** На тым жа месцы ў той жа час.
**00.00** «Вялікая гульня». Покер.
**00.45** «Кашмар на вуліцы Вязаў - 2».



### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца добрага дня.
**08.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** «Арол і рэшка. На краі свету». Пазнавальна-забаўляльнае шоў (Украіна).
**10.00** Капейка ў капейку.
**10.35** Трылер «Закрытая школа».
**11.40** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**12.30** «Экстрасэнсы-дэтэктывы». Дакументальны цыкл расследаванняў (Украіна).
**13.30** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**15.30** «Пін_код». Інтэрактыўны моладзевы праект.
**16.20** Трылер «Закрытая школа».
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Баявік «Тры іксы».
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** Бітва экстрасэнсаў.
**22.00** Спортлато 6 з 49, КЕНА.
**23.25** «Пін_код». Інтэрактыўны моладзевы праект.
**01.00** Фэнтэзі «Усемагутныя Джонсаны».

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.15** «Дабранакак».
**07.40** «Сусветная карцінная галерэя».
**07.55** «Калейдаскоп».
**08.10** «Слёзы капалі». Трагікамедыя (СССР, 1982 г.).



**09.35** «Імпульс Алфёрава». Фільм трэці «Алфёраў ёсць Алфёраў».
**10.15** «Сачыненне да Дня Перамогі». Драма.
**12.05** «Калейдаскоп».
**12.20** «Размаўляем па-беларуску».
**12.25** «Маша і звяры». Музычная казка (Расія, 1995 г.).
**13.35** «Славянскі базар-2000». Сольны канцэрт Мікалая Скорыкава.
**15.00** «Дон Кіхот». Драма (СССР, 1957 г.).
**16.40** «Калейдаскоп».
**16.55** «Чорны цюльпан». Прыгодніцкі фільм (Францыя, Італія, Іспанія, 1963 г.).



**18.45** «Лісты мёртвага чалавека». Фантастычная драма (СССР,1986 г.).
**20.10** «Камертон». Італьянскі скрыпач Стэфана Мантанары.
**20.40** «Калыханка».
**21.00** «Палёта вольное упорства». Дакументальны фільм пра выдатную балерыну Маю Плісецкую.
**21.30** «Апошняе каханне містэра Моргана». Драма (Германія, Францыя, Бельгія, ЗША, 2013 г.).
**23.20** «Камертон». Італьянскі скрыпач Стэфана Мантанары.
**23.45** «Калейдаскоп».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**06.20** PRO спорт. Навіны.
**06.30** Баскетбол. НБА. Кліперс - Голдэн Стэйт.
**08.55** Хакей. Металург - АкБарс.
**10.50** Хакей. КХЛ. СКА - Барыс.
**12.45** Змешаныя адзінаборствы.
**15.40** Баскетбол. НБА. Кліперс - Голдэн Стэйт.
**18.10** Свет англійскай прэм'ер-лігі.
**18.40** Піт-стоп.
**19.15** PRO спорт. Навіны.
**19.25** Хакей. КХЛ. Дынама (Масква) - Дынама (Мінск).
**21.45** Грэка-рымская барацьба.
**23.55** PRO спорт. Навіны.
**00.05** Еўрапейскі покерны тур.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.25** Два на два (тэледыскусія).
**08.00** Студыя «Белсат».
**10.10** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**10.40** Відзьмо-невідзьмо.
**11.05** Менск ад золку да змяркання, д/ф.
**11.50** Кропка апоры, д/ф.
**12.50** Студыя «Белсат».
**13.20** Два на два (тэледыскусія).
**13.55** Студыя «Белсат».
**16.05** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**16.35** Відзьмо-невідзьмо.
**17.05** Кропка апоры, д/ф.
**18.05** 54 % (публіцыстычная праграма): Мама шчаслівая, але не ідэальная.
**18.30** Студыя «Белсат».
**18.55** Маю права (юрыдычная праграма).
**19.15** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Кім быў Казімір Ягайлавіч?
**19.30** Студыя «Белсат».
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.40** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**22.20** Люсьё, д/ф, 2007 г., Іспанія.
**23.50** Генрых V, м/ф.
**01.55** Студыя «Белсат».

## 21 ЛІСТАПАДА, СУБОТА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.55** Існасць.
**08.10** Буйным планам.
**09.00** Навіны.
**09.40** Трансфармацыя.
**10.15** «50 рэцэптаў першага». Кулінарнае шоў.
**11.20** Дача.
**12.00** Навіны.
**12.10** «Здароўе». Ток шоў.
**12.25** Terra incognita. Беларусь невядомая.
**12.55** Меладрама «Куды сыходзіць каханне».



**14.45** Нашы.
**15.00** Навіны.
**15.15** Краіна.
**15.45** Меладрама «Я падарую табе каханне».
**17.30** Вострасюжэтная драма «Матуля мая».
**21.00** Панарама.
**21.30** Еўрабачанне-2015.
**00.00** Дзень спорту.
**00.15** Меладрама «Куды сыходзіць каханне».

### Н

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Смяшарыкі.
**09.25** Здароўе.
**10.30** Смак.
**11.05** Ідэальны рамонт.
**12.05** Разумніцы і разумнікі.
**12.50** Рэаліці-шоў «Аўтобус».
**13.25** Мастацкі фільм «Жанчыны».
**15.15** Следства пакажа.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Анімацыйны фільм «Тарзан».
**17.45** Да юбілею М. Плісецкай.
**18.45** Здабытак рэспублікі.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Сёння вечарам.
**22.35** Мастацкі фільм «Пляж».
**00.40** Камедыя «Прыяцелі з Беверлі Хілз».

### ТВ

**06.05** «Ашуканцы».
**07.40** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**09.15** Сакрэтныя тэрыторыі.
**10.40** «Мінск і мінчане».
**11.15** «Салдаты 6».
**13.40** «Лэдзі і разбойнік».
**15.20** Вадзіць па-руску.
**15.55** Вялікі горад.
**16.40** Наша справа.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.55** Канцэрт Міхаіла Задорнава.
**17.35** «Спатканне маёй мары».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ спорт».
**20.10** «Тэорыя змовы».
**22.30** Дакументальны праект.
**01.00** «Лэдзі і разбойнік».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.05** Прыгодніцкі анімацыйны серыял «Сябры анёлаў» (Італія).
**07.40** Навуковае шоў прафесара Адкрывашкіна.
**08.05** Камедыйны серыял «Мая цудоўная няня» (Расія).
**10.10** Азбука густу.
**10.45** Серыял «Прыгоды Дзіна».
**11.05** Прыгодніцкі анімацыйны серыял «Сябры анёлаў» (Італія).
**12.15** Капейка ў капейку.
**12.50** Серыял «Хто ў доме гаспадар?».
**14.45** «Арол і рэшка. Шопінг». Пазнавальнае шоў (Украіна).
**15.45** Фільм «Раён № 9».



**17.45** Бітва экстрасэнсаў.
**19.50** «Панаехалі». Рэаліці-шоў.
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** Меладрама «Чужаземка».
**22.00** Спортлато 6 з 49, КЕНА.
**23.25** Кіно: «Код да Вінчы».
**23.30** «Арол і рэшка. Шопінг». Пазнавальнае шоў (Украіна).
**00.20** Фэнтэзі «Усемагутныя Джонсаны».

### 3 БЕЛАРУСЬ

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.15** «Таямніца душы».
**08.45** «Дванаццаць крэслаў». Камедыя. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1971 г.).
**11.20** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**11.55** «Непадсудны». Псіхалагічная драма.
**13.20** «Кінагерой. Век рускай містыфікацыі». Навукова-папулярны фільм.
**14.15** «Калейдаскоп».
**14.30** «Размаўляем па-беларуску».
**14.40** «Нізамі». Біяграфічны кінараман. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1982 г.).
**16.50** «Камертон». Італьянскі скрыпач Стэфана Мантанары.
**17.15** «Калейдаскоп».
**17.30** «Размаўляем па-беларуску».
**17.40** «Экіпаж». Фільм-катастрофа. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1979 г.).
**20.00** Леанід Млечын прадстаўляе. «Мікалай II, Аляксандра Фёдараўна і Грыгорый Распуцін». Дакументальны фільм цыклу «Сусветныя таямніцы».
**20.40** «Калыханка».
**21.00** «Дазвольце расказаць!» Дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі Уладзімір Пракапцоў.
**21.15** «Адзіноцтва ў сетцы». Рамантычная драма (Польшча, 2006 г.).
**23.25** «Бард-парад».
**00.00** «Калейдаскоп».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.35** PRO спорт. Навіны.
**07.25** Грэка-рымская барацьба.
**09.30** Хакей. КХЛ. Дынама (Масква) - Дынама (Мінск).
**11.20** Змешаныя адзінаборствы.
**15.30** Баскетбол. НБА. Нью Арлеан - Сан Антоніо.
**15.10** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**15.40** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Уотфорд - Манчэстэр Юнайтэд.
**17.55** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў. БГК ім. Мяшкова - Татран.
**19.55** Баскетбол. Кваліфікацыя да Еўра-2017. Польшча - Беларусь.
**21.50** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Манчэстар Сіці - Ліверпуль.
**23.45** PRO спорт. Навіны.
**23.55** Еўрапейскі покерны тур.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.25** Маю правa (юрыдычная праграма).
**07.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Кім быў Казімір Ягайлавіч?
**08.00** Студыя «Белсат».
**10.10** Ліс Леон, мультсерыял.
**10.20** Цюхця, што ты за стварэнне?!, мультсерыял.
**10.25** Польскія казкі і паданні, мультсерыял.
**10.40** Занатоўкі натураліста.
**10.50** Машына зменаў, тэлесерыял.
**11.20** Два на два (тэледыскусія).
**11.50** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**12.15** Генрых V, м/ф.
**14.25** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**15.05** Люсьё, д/ф.
**16.35** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**17.00** Беларусы ў Польшчы.
**17.20** Mad Men. Утрапёныя IV, серыял.
**18.05** Ратаўнікі, серыял.
**18.50** Загадкі беларускай гісторыі: Загадкі Агінскага і Залесся.
**19.05** «Туга па імперыі», дакументальны фільм.
**20.00** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**20.35** Мова нанова: Заходняя Беларусь. Паланізмы.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.10** Форум (ток-шоў): Другая хваля.
**21.55** 1050 дзён самоты, д/ф, 2015 г., Беларусь.
**22.35** Рэквіем, м/ф.
**00.05** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**00.35** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Алена Сідарава.
**01.05** Студыя «Белсат».
**01.20** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**01.55** «Люсьё», дакументальны фільм.

TV

## 22 ЛІСТАПАДА, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**07.20** Меладрама «Палюбоўнік для Люсі».
**09.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Гісторыя рамонту.
**10.20** 50 рэцэптаў першага.
**11.00** XXL WOMAN TV.
**12.00** Навіны.
**12.10** Навіны.
**12.35** Каробка перадач.
**13.10** Зона Х.
**13.45** Таямніцы следства.
**14.15** Вакол планеты.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Меладрама «Карункі».
**17.25** Меладрама «Ілюзія шчасця».
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Клуб рэдактараў.
**22.35** Навіны надвор'я.
**22.55** Меладрама «Я падарую табе каханне».

### ОНТ

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** Смяшарыкі.
**09.35** Шалапутныя нататкі.
**09.55** Пакуль усе дома.
**10.40** «Фазэнда».
**11.15** Брэйн-рынг.
**12.00** Нашы навіны.
**12.55** Шматсерыйны фільм «Назад у СССР».



**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Тэорыя змовы.
**17.25** КВЗ. Кубак мэра Масквы.
**20.00** Контуры.
**21.05** Голас.
**23.20** Мастацкі фільм «Метад».



### СТВ

**06.05** Камедыйны серыял «Афрамасквіч».
**06.55** Сардэчна паскардзіцца.
**07.15** Аўтапанарама.
**07.55** «Тэорыя змовы».
**10.15** Чыстая праца.
**11.00** Вялікі сняданак.
**11.40** «Салдаты 6».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.40** «Мост Ватэрлоо».



**15.35** Батальён памяці.
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Аўтапанарама».
**17.20** Дарагая перадача.
**17.30** «Кіроўца для Веры».
**19.30** Тыдзень.
**20.25** Ваенная таямніца.
**23.40** Дакументальны праект.
**00.20** «Мост Ватэрлоо».

### Беларусь 2

**07.05** Прыгодніцкі анімацыйны серыял «Сябры анёлаў» Італія.
**08.10** Серыял «Хто ў доме гаспадар?».
**10.05** «Арол і рэшка». Пазнавальнае шоў (Украіна).
**11.10** Хачу ў тэлевізар!
**11.15** Тэлебарометр.
**11.20** Ваша лато.
**11.50** Пяцёрачка.
**12.25** Зразумець і абясшкодзіць.
**13.05** Камедыйны серыял «Мая цудоўная няня» (Расія).
**15.00** Баявік «Тры іксы».
**17.05** Фільм «Раён № 9».
**19.15** Суперлато.
**20.05** Тэлебарометр.
**20.40** Кіпень.
**21.10** Іранічны дэтэктыў «Метад Фрэйда 2» (Расія).
**22.00** Спортлато 5 з 36, КЕНА.
**23.20** Хачу ў тэлевізар!
**23.30** Меладрама «Чужаземка».

### Беларусь 3

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.15** «Нестар Бурма». Крымінальны серыял (Францыя, 1993 г.).
**09.45** «Экіпаж». Фільм-катастрофа. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1979 г.).
**12.00** «Подых струн». Музычная праграма. Госць: Народны калектыў аўтарскай песні «Элегія» (г. Вілейка).
**12.45** «Наперад у мінулае».
**13.10** Хіт-парад «Сто песень для Беларусі».
**14.05** «Музеі Беларусі». Мемарыяльны музей Героя Савецкага Саюза К.С.Заслонава.
**14.35** «О Беларусь, мая шыпшына!» Дакументальны фільм.
**15.00** «Гітара па крузе». Віктар Фёдараў-Вішнякоў, акцёр, заслужаны артыст Расіі, скрыпачка Таццяна Хазанава.
**15.55** «Апошняе каханне містэра Моргана». Драма (Германія, Францыя, Бельгія, ЗША, 2013 г.).
**17.50** «Калейдаскоп».
**18.05** «Дванаццаць крэслаў». Камедыя. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1971 г.).
**20.40** «Калыханка».
**21.00** «Любімыя ВІА». Канцэрт з удзелам папулярных ВІА 70-х, 80-х гадоў.
**22.05** «Нестар Бурма». Крымінальны серыял (Францыя, 1993 г.).
**23.35** Леанід Млечын прадстаўляе. «Мікалай ІІ, Аляксандра Фёдараўна і Грыгорый Распуцін». Дакументальны фільм.
**00.10** «Калейдаскоп».

### Беларусь 5

**07.35** PRO спорт. Навіны.
**07.50** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Манчэстар Сіці - Ліверпуль.
**09.45** Баскетбол. Кваліфікацыя да Еўра-2017. Польшча - Беларусь.
**11.25** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў. БГК ім. Мяшкова - Татран.
**12.55** Свет англійскай прэм'ер-лігі.
**13.30** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**14.05** Мотафрыстайла.
**15.10** Баскетбол. НБА. Арланда - Сакрмента.
**16.55** Хакей. КХЛ. Віцязь - Дынама (Мінск).
**19.10** Футбол. Чэмпіянат Англіі.
**21.05** Тэквандо. Адкрыты кубак СНД.
**23.15** PRO спорт. Навіны.
**23.30** Баскетбол. НБА. Кліперс - Таронта.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.10** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**07.45** Ліс Леон, мультсерыял.
**07.55** Цюхця, што ты за стварэнне?!, мультсерыял.
**08.00** Польскія казкі і паданні, мультсерыял.
**08.15** Занатоўкі натураліста.
**08.20** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**09.00** Маю правa (юрыдычная праграма).
**09.20** Беларусы ў Польшчы.
**09.40** Два на два (тэледыскусія).
**10.10** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**10.35** Загадкі беларускай гісторыі: Загадкі Агінскага і Залесся.
**10.50** Ліс Леон, мультсерыял.
**11.00** Цюхця, што ты за стварэнне?!, мультсерыял.
**11.05** Польскія казкі і паданні, мультсерыял.
**11.20** Занатоўкі натураліста.
**11.25** Сонечная дзіда, серыял.
**11.55** Мова нанова: Заходняя Беларусь. Паланізмы.
**12.15** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**12.55** Рамантычны канцэрт: ч. 1.
**13.35** Туга па імперыі, д/ф.
**14.30** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**14.55** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**15.35** Форум (ток-шоу): Другая хваля.
**16.15** Рэквіем, м/ф.
**17.45** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.15** Быдгашч ад золку да змяркання, д/ф.
**19.05** 1050 дзён самоты, дакументальны фільм.
**19.45** Сведкі.
**20.00** Эксперт (сатырычная праграма).
**20.25** Баба, Ваня і каза, д/ф, 2014 г., Беларусь.
**20.40** Пра любоў: Іра, д/ф, 2014 г., Беларусь.
**21.10** Пасха Хрыстова, д/ф, 2015 г., Беларусь.
**21.25** Кінаклуб: «Зімовая костка».
**21.40** Зімовая костка, м/ф.
**23.15** Mad Men. Утрапёныя IV, серыял.
**00.05** Неабвешчаная вайна. Нататкі дакументаліста, д/ф: ч. 1.

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы Час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы Час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакумента на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 3012741108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

## Увага! Змяніўся кошт падпіскі!

Паважаныя чытачы! На жаль, мы вымушаны павялічыць падпісны кошт. З **1 студзеня 2016** года кошт аднаго месяца падпіскі — **32 000** руб. Падпісны кошт **I квартала** 2016 года — **90 000 рублёў.**

**ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА РАЗУМЕННЕ І ПАДТРЫМКУ!**



КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

| | | | |
|---|---|---|---|
| Счет получателя | 3012741108019 | Лицевой счет | Код 739 |
| УНП* | 190790926 | | |

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

Период подписки указывает абонент

Плательщик

Кассир

Пеня ________

Всего ________

# Дэнамінацыі: рэйхсмарка, пенгё, карбованцы

Алег НОВІКАЎ

**Запланаваная на ліпень наступнага года дэнамінацыя ў Беларусі выклікала шмат дыскусій у грамадстве, хаця ў сусветнай гісторыі дэнамінацыі — справа нярэдкая. Шмат якія краіны не адзін раз скасоўвалі нулі на сваіх грошах.**

Толькі пасля Другой сусветнай вайны ў свеце было праведзена больш за 600 дэнамінацый. А першая дэнамінацыя ў гісторыі Еўропы ўвогуле мела месца ў Германіі ў 1871 годзе. Праўда, тая дэнамінацыя была спецыфічная — намінал новых грошай быў большы за старыя (у тэорыі дэнамінацыі такое дапускаецца). У дадатак сама грашовая рэформа была выкліканая хутчэй зменамі на палітычнай мапе Еўропы, а не эканамічнай пертурбацыяй. Пасля перамогі Прусіі над Францыяй (1871) і аб'яднання Германіі знікла патрэба ў саюзным талеры — супольнай грашовай адзінцы нямецкіх дзяржаў, якую маглі чаканіць усе 25 чальцоў нямецкага мытнага саюза. Саюзны талер замяніла нямецкая залатая марка, за адзін талер давалі тры маркі.

Затое ў 1924 годзе ў Германіі адбылася класічная дэнамінацыя. Рэйхсмарка замяніла папяровую марку (Papiermark), якая падчас гіперінфляцыі 1914–1923 гадоў была вельмі абясцэнена. Курс абмену склаў 1 000 000 000 000 : 1 (адзін трыльён папяровых марак да адной рэйхсмаркі).

Гэты рэкорд удалося пабіць толькі Венгрыі, чыя нацыянальная валюта пенгё пасля Другой сусветнай вайны стала ахвярай нябачанай у гісторыі гіперінфляцыі, якая дасягала 400% на суткі. Напрыканцы мая 1946-га купюра ў 1 квадрыльён пенгё каштавала 2,4 цэнта ЗША. 1 жніўня 1946 была ўведзена новая грашовая адзінка — форынт. Старыя грошы абменьваліся на новыя па курсе 400 актыльёнаў (у атыльёне 27 нулёў) пенгё за форынт.

У гісторыі СССР дэнамінацыя праходзіла ў 1922, 1923, 1924, 1947, 1961 гадах. Найбольш буйной была рэформа 1922-га. Дэнамінацыя тады была праведзена з каэфіцыентам 10 000 : 1. У 1947-м і 1961-м дэнамінацыі былі праведзены з каэфіцыентам 10 : 1. Трэба таксама ўзгадаць нефармальную дэнамінацыю часоў грамадзянскай вайны. Пры выпуску савецкіх грошай (так званых «саўзнакаў») у 1923-м пазначалася, што адзін такі «саўзнак» каштуе 1.000.000 старых царскіх рублёў.

А вось у СНД дэнамінацыя стала больш звыклай справай. Пасля распаду СССР сярод краін постсавецкай прасторы дэнамінацыя не праводзілася толькі ў Эстоніі, Арменіі, Казахстане і Кыргызстане. Сярод краін Садружнасці ў прыбіранні нулёў з купюр найбольш адзначылася, безумоўна, Беларусь з дзвюма былымі дэнамінацыямі (1994, 2000) плюс адной запланаванай на 2016-ы.

**400%**

**З такой хуткасцю штодня губляла сваю вагу нацыянальная валюта Венгрыі пасля Другой сусветнай вайны**

Найбольш вялікі каэфіцыент пры дэнамінацыі ў краінах СНД быў зафіксаваны ва Украіне пры пераходзе з карбаванцаў на грыўны — 100 000 : 1. Найменшы каэфіцыент (10 : 1) дэнамінацыі быў у Беларусі (1994) і ў Грузіі ў 1995-м, калі грузінскі купон замянілі на лары.

А вось у далёкім замежжы пакуль першынства па колькасці дэнамінацый трымае Бразілія. З 1942 па 1996 гады ў Бразіліі нацыянальная валюты губляла нулі 8 разоў. Самая незвычайная дэнамінацыя мела месца ў 1967-м, калі ў абарот быў уведзены «новы крузейра». Асаблівасцю дадзенай замены было тое, што старыя банкноты з ужытку не выводзіліся, а цыркулявалі з адпаведным штампам пра тое, што гэта і ёсць цяпер новыя грошы.

На другім пасля Бразіліі месцы па колькасці дэнамінацый крочыць былая сацыялістычная Югаславія. Да таго, як краіна канчаткова развалілася, нулі з банкнотаў прыбіралі сем разоў, прычым шэсць апошніх дэнамінацый прыходзяцца на 1990-я гады.

Зімбабве — сусветны лідар па тэмпах інфляцыі — праводзіла дэнамінацыі толькі тройчы. Праўда, у выніку апошняй (люты 2009-га) новы долар каштаваў адзін трыльён старых. Самае цікавае, што такі маштаб не паўплываў на лёс новай валюты. Ужо 12 красавіка таго ж года стала вядома аб забароне абароту долара Зімбабве з-за новага вітку гіперынфляцыі. Замест мясцовай грашовай адзінкі жыхары краіны сталі выкарыстоўваць долары ЗША, фунты стэрлінгаў, а таксама валюты суседніх дзяржаў, якія маюць больш стабільную эканоміку. Нарэшце 30 чэрвеня 2009 года зімбабвійскі долар спыніў сваё існаванне праз адпаведнае рашэнне Банка Зімбабве.

Парадаксальна, аднак столькі ж дэнамінацый, як Зімбабве, перажылі Балгарыя (1952, 1962, 1999) і Польшча (1924, 1950, 1995). Думаецца, шмат хто яшчэ памятае 1990-я гады, калі Польшчу ліхаманіла ад інфляцыі. Аднак гэта дробязь у параўнанні з 1920-мі гадамі. Пасля грашовай рэформы 1924 года злоты каштаваў 1 800 мільёнаў старых польскіх марак.

У прынцыпе, як бачым, дэнамінацыя не з'яўляецца нейкім чароўным сродкам. У шэрагу выпадкаў яна сапраўды стала адзнакай аздараўлення фінансаў і ўсёй нацыянальнай эканомікі. У іншых — толькі працягвала агонію існуючай эканамічнай мадэлі. Застаецца спадзявацца, што айчынная дэнамінацыя 2016-га, магчыма, стане прыкметай аздараўлення.



Фота www.intex-press.by

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Любыя інтэграцыйныя працэсы, у якіх хацела б удзельнічаць Беларусь, абавязкова запатрабуюць рэфармавання. Беларуская сістэма прадугледжвае існаванне паміж эканамічнымі цэнтрамі. На жаль, такі перыяд праходзіць. У асяроддзі Аляксандра Лукашэнкі гэта разумеюць. Трэба сказаць, што яго асяроддзе ў асноўным арыентаванае на інтэграцыю з Захадам.

**«Коммерсантъ» (Расія)**

Цікава яшчэ раз зірнуць на папулярнасць беларускай мары ў Расіі. Сапраўды, 66% апытаных лічаць яе найбольш паспяховай краінай СНД (для параўнання: Казахстан — 45%). Асобныя палітычныя ноў-хаў Лукашэнкі перанятыя і Расіяй. Але Беларусь — усё роўна на адлюстраванне Расіі, яе вынік, а не прычына. Беларуская стабільнасць немагчымая без расійскіх датацый і гульні Лукашэнкі на супярэчнасцях паміж Масквой і Захадам, актыўнага выкарыстання шэрых схем гандлю, у тым ліку санкцыйнымі таварамі. Расіянам, якім вельмі падабаецца беларуская мадэль, варта памятаць, што, па-першае, яны самі яе ў значнай ступені аплачваюць. А па-другое, стабільнасць Беларусі вызначаецца яшчэ і тым, што Лукашэнка не ідзе ваяваць у блізкія і далёкія краіны.

**«Ведомости» (Расія)**

Цікавая статыстыка па інвестыцыях ва Украіну. Пачынаючы з 2013 года Беларусь штогод павялічвае прамыя інвестыцыі на 50%. Гэта — стварэнне сумесных прадпрыемстваў (СП). Мэта простая — скарыстацца адкрытай мяжой Украіны з ЕС і такім чынам абыйсці гандлёвыя санкцыі. Таму можна сцвярджаць, што пэўная частка «ўкраінскага» экспарту ў краіны Еўрасаюза мае беларускае паходжанне. На берагах Дняпра толькі біркі памянялі.

**«Хвиля» (Украіна)**

На сённяшняга дня Беларусь мела ярка выражаны інфляцыйны тып эканомікі. Гэта дазваляла нейк падтрымліваць рэальны сектар і сацыяльную сферу. Слабы беларускі рубель таксама адпавядаў інтарэсам вытворцаў, якія экспартуюць свой тавар на знешнія рынкі, у прыватнасці ў Расію. Нацбанкам ужо заяўлена аб планах па зніжэнні інфляцыі, якая па выніках 2015 года можа скласці ў Беларусі 15–18%, да 5% да 2020 года, што само па сабе няздрэнна. Але калі ў дачыненні да новага беларускага рубля будуць ужытыя жорсткія манетарысцкія правілы, і ў выніку ўразання выдаткаў на сацыяльную сферу і дзяржвыдаткаў, а таксама антыінфляцыйных мер Нацбанка будзе ўсталяваны адносна цвёрды курс, то ў несумненнай выгадзе апынуцца імпарцёры, якія пастаўляюць свой тавар на беларускі рынак.

**«Русская планета» (Расія)**

Асноўную стаўку Мінск зрабіў на рынак Расіі. Таму калі ў краіне-саюзніцы, куды пастурае больш за 50 працэнтаў беларускага экспарту, грымнуў крызіс з-за падзення кошты нафты, абвалілася і беларуская эканоміка. Але як бы ўладзе ні хацелася звaліць усе праблемы на знешнія фактары, асноўнай з'яўляецца адсутнасць структурных рэформаў. Аб іх неабходнасці адразу пасля выбараў адкрыта заявілі чыноўнікі з эканамічнага блока беларускага ўрада. З рэформаў трэба было пачынаць яшчэ ўчора, але галоўным праціўнікам пераўтварэнняў, як і раней, выступае сам Лукашэнка.

**«Deutsche Welle» (Германія)**

Беларусь, з аднаго боку, застаецца «еўрапейскай Папялушкай» без перспектыў развіцця дэмакратыі і з залежнасцю ад расійскай фінансавай дапамогі, з другога — для Украіны нармальныя адносіны з гэтай краінай мінімізуюць пагрозу быць узятай у аблогу Расіяй. Думаю, ні для каго не сакрэт, што экспансіянісцкія планы Крамля існуюць. Выбудоўванне эфектыўных адносін з Беларуссю — важны элемент цэнтральнаеўрапейскай ідэнтычнасці, якая становіцца ўсё больш важнай для нашай краіны.

**УНІАН (Украіна)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ЕС. Знаёмцеся — Усходне-Еўрапейскі Саюз

Заходняя прэса прагназуе хуткі выхад са складу ЕС або стварэнне ў яго складзе асобнай фракцыі. Падставай для такіх прагнозаў стала перамога на выбарах у польскі Сейм кансерватыўнай партыі «Права і Справядлівасць» (PiS). Кансерватыўна-клерыкальныя каштоўнасці польскіх кансерватараў вельмі падобныя на каштоўнасці ўраду Віктара Орбана ў Венгрыі, што фактычна ставарае глебу для новай геапалітычнай восі Варшава — Будапешт. Да гэтага тандэму могуць таксама далучыцца Прага і Браціслава, дзе пры ўладзе знаходзяцца левыя еўраскептыкі. Міграцыйны крызіс дапамагае Орбану і Качыньскаму ў перспектыве таксама знайсці агульную мову з урадамі іншых краін Усходняй Еўропы. На думку французскага выдання «Nouvelle Observateur», пляцоўкай для фармавання фракцыі стане Вышаградская група — кансультацыйная група Польшчы, Чэхіі, Славакіі і Венгрыі, што дзейнічае з 1991 года. У лідары новага блоку выданне прарочыць венгерскага прэм'ера Віктара Орбана.

**Паводле французскай прэсы**

### РАСІЯ. Назарбаеў перамог «рускі мір»

У рамках святкавання Дня народнага адзінства ў Маскве адбыўся Кангрэс суайчыннікаў. Гэта традыцыйнае мерапрыемства, на якое збіраюцца лідары прарасійскіх арганізацый з краін СНД. На гэты раз усе нечакана канстатавалі поўную адсутнасць прадстаўнікоў Казахстану. Прычым гаворка не пра нейкія штучныя структуры прайдзісветаў. Напрыклад, арганізацыя «Руская абшчына», якая працуе на поўначы Казахстана, дзе пражывае шмат этнічных рускіх, налічвае некалькі дзясяткаў тысяч чалавек. Акрамя таго, тут вельмі актыўныя казацкія арганізацыі, якія таксама не прысутнічалі на сустрэчы ў Маскве. Журналісты даведаліся, што прарасійскія актывісты з Казахстана не трапілі ў Маскву праз адсутнасць запрашэнняў з пасольства Расіі ў Астане. Супрацоўнікі пасольства, у сваю чаргу, кажуць, што за запрашэнні адказвае аргкамітэт Кангрэсу. Назіральнікі лічаць, што Крэмль вырашыў проста не дражніць Назарбаева і заплюшчыў вочы на праблемы расійскай грамады ў Казахстане. На карысць такой версіі ўскосна сведчаць тое, што Кангрэс суайчыннікаў праходзіў на фоне судовых працэсаў у Казахстане над двума блогерамі, якія заклікалі да далучэння да Расіі Усходняга Казахстану. Кангрэс пра іх справу нават не згадаў.

**Паводле казахстанскай прэсы**

### УКРАІНА. Далоў Брэсцкі мір!

Міжнародная грамадская арганізацыя «Всевеликое войско Донское» прыняла рашэнне пачаць працэдуру вяртання казакам гістарычных данскіх зямель, страчаных у выніку «злачыннага Брэсцкага міру». Справа тычыцца часткі цяперашняй Луганскай і Данецкай абласцей Украіны, якія да падпісання дамовы паміж Германіяй і савецкай Расіяй у Брэсце ў 1918 годзе ўваходзілі ў склад войска Данскога. Пасля дамовы гэта тэрыторыя стала часткай Украінкай рэспублікі, а з часам — і цяперашняй Украіны. Апошнія 25 гадоў данскія казакі не раз патрабавалі вяртання тых земляў, а на гэты раз яны вырашылі звярнуцца нават у Гаагскі трыбунал. Праўда, усё гэтыя ўчынкі і заявы хутчэй выклікаюць смех. У тым ліку таму, што прадстаўнікі казацтва актыўна ўдзельнічалі ў нядаўнім узброеным канфлікце ў Данбасе, выступаючы на баку прыхільнікаў стварэння сепаратысцкіх Данецкай і Луганскай рэспублік, якія адміністратыўна ўключаюць згаданыя вышэй землі данскіх казакоў.

**Паводле расійскай прэсы**

### ЗША. Піце правільную каву



Дональд Трамп, скандальны прэтэндэнт на пасаду кандыдата ў прэзідэнты ЗША ад Рэспубліканскай партыі, далучыўся да кампаніі, якую вядзе група радыкальных пратэстанцкіх пастараў, што выступаюць за вяртанне на кававыя кубкі, якія прадаюцца ў кавярнях «Starbucks», надпісу: «Віншуем з Калядамі!». Клерыкалы пабачылі ў адсутнасці традыцыйнага надпісу атаку на ролю царквы ў грамадстве і заклікалі да байкоту кавярняў «Starbucks». Іх падтрымаў і Трамп, які ў дадатак заклікаў выбаршчыкаў-рэспубліканцаў таксама далучыцца да кампаніі. Відавочна, за гэты кошт Дональд Трамп намагаецца прыцягнуць інтарэс да сваёй кандыдатуры з боку кансерватыўнай фракцыі рэспубліканскай партыі. Палітык пабяцаў у выпадку сваёй перамогі на прэзідэнцкіх выбарах асабіста разабрацца з кампаніяй. Што тычыцца самой кампаніі, то адміністрацыя «Starbucks» не бачыць у адсутнасці калядняга віншавання ніякай крамолы. Па словах кіраўніцтва, зараз ідзе пошук новага дызайну кубкаў для кавы.

**Паводле брытанскай прэсы**

# Чаму Пілсудскі не ўзяў Маскву?

Алег НОВІКАЎ




**Напярэдадні святкавання Дня незалежнасці Польшчы ў мясцовых кнігарнях з'явілася скандальная кніга. Яе аўтар абвінавачвае Пілсудскага ў тым, што той не ўзяў Маскву.**

Для тых, хто больш-менш сочыць за польскім кніжным рынкам, імя Пятра Зыховіча (Piotr Zychowicz) ужо вядомае. За Бугам ён лічыцца каралём жанру альтэрнатыўнай гісторыі. Зыховіч старанна капаецца ў архівах і мемуарах у пошуках малавядомых фактаў, акуратна ўстаўляе іх у наратыў гісторыі, творча выкарыстоўвае кампаратыўны метад. У выніку пабудаваныя ім гістарычныя гіпотэзы для чытача не падаюцца такімі ўжо і байкамі.

Спачатку Зыховіч захапляўся альтэрнатыўнай гісторыяй Другой сусветнай вайны. Дакладней, ён працаваў над сцэнарам гісторыі, які б мог паўстаць у выпадку, калі б Рыбентроп улетку 1939-га падзяліў Еўропу не з Молатавым, а з Юзэфам Бекам, тагачасным дырэктарам польскага МЗС. У такім разе, на думку Зыховіча, Польшчу б чакалі бліскучыя часы. Атакаваўшы разам з Гітлерам СССР, Варшава магла б вярнуць сабе тэрыторыі Рэчы Паспалітай у межах 1772 года. Пазней, калі ў вайну ўступілі ЗША, Польшча магла зрабіць тое, што і ў 1943–1944 гадах Італія, Балгарыя і Румынія, якія перабеглі на бок антыгітлераўскай кааліцыі. У такім разе па выніках вайны Польшчы была б самым буйным гульцом у разбуранай Еўропе.

У наступных кнігах Зыховіч прайшоўся па забабонах польскай эліты 1940-х, якая катэгарычна адмовілася гуляць у калабарацыйныя гульні з нямецкімі акупантамі. Адваротная стратэгія, мяркуе аўтар, дазволіла б захаваць жыццё мільёнам палякаў, падтрымліваць нацыянальна-культурнае жыццё з дапамогай марыянетачнага ўраду, а таксама атрымаць права на фармаванне сваіх мілітарных структур, якія б пасля пераломy ў вайне зноў жа перайшлі на бок Чэрчыля—Рузвельта.

Чарговая кніга Зыховіча «Пілсудскі—Ленін. Або як палякі выратавалі бальшавізм і страцілі шанс на будаўніцтва імперыі» — новы рубеж у ягонай творчасці. На гэты раз у фокусе інтарэсу Зыховіча апынулася грамадзянская вайна ў Расіі, удзельнікамі якой таксама былі палякі. Больш за тое, як сцвярджае аўтар, Пілсудскі мог выйсці з яе абсалютным пераможцам. Для гэтага яму патрэбна было проста ўзяць Маскву. Прычым зрабіць гэта было няцяжка праз спецыфіку сітуацыі на фронце. Як мінімум двойчы бальшавікі вымушаны былі канцэнтраваць свае рэсурсы на іншых напрамках, агаляючы заходні. І двойчы Пілсудскі ўпускаў унікальны шанс прыняць на Чырвонай плошчы парад перамогі.

Першы раз фартуна магла ўсміхнуцца палякам увосень 1919 года, калі маладая савецкая рэспубліка, падавалася, агінізуе пад ударамі белых армій і ўнутраных паўстанняў. Аднак у гэты крытычны час Пілсудскі раптам аддаў загад: прыпыніць наступ на Мазыр — стратэгічны пункт для абароны Саветаў. Калі верыць Зыховічу, пасіўнасць польскай арміі на заходнім напрамку дазволіла бальшавікам перакінуць адсюль войскі на дзянікінскі фронт і выратаваць сітуацыю. Другі раз палякам, падавалася, пашанцавала ў пачатку 1920 года, калі ўся Чырвоная Армія змагалася на Поўдні. І зноў Пілсудскі не аддаў загад наступаць на Маскву.

Паводле Зыховіча, маршалам рухаў стары комплекс — лепш чырвоныя, чым белыя. Апошнія, мяркую, ніколі не пагодзяцца з існаваннем незалежнай Польшчы. Акрамя таго, аўтар падазрае, што Ленін вёў таемныя перамовы з Пілсудскім праз знаёмых польскіх сацыялістаў. Гэта была фатальная памылка Пілсудскага, вынікам якой стаў наступ бальшавікоў у 1920 годзе, Рыжскі мір, Пакт Рыбентропа — Молатава і г.д.

Пасыпаўшы галаву попелам за памылкі маршала, Зыховіч пераходзіць да ўлюбёнай тэмы — фантазій наконт таго, што было б у адваротным выпадку. Прарыў польскіх легіёнаў на Маскву ў 1919 годзе стаў бы, паводле Зыховіча, першым крокам на шляху будаўніцтва федэрацыі з удзелам Польшчы, Украіны, Беларусі, Літвы, Латвіі, Эстоніі... Першую скрыпку ў такім саюзе гулялі б, натуральна, палякі, затое другую — беларусы. Як кажа Зыховіч у інтэрв'ю выданню «Onet», «Беларусы ставіліся да польскага праекту паважна», «з беларусамі няцяжка было наладзіць супрацоўніцтва».

Рэакцыя на кнігу Зыховіча ў польскім грамадстве дастаткова цікавая. Як і раней, яе ацэнкі абсалютна палярныя. Але гісторыкі ў шоку ад хімераў Зыховіча, які наўмысна апускае шмат фактаў. Напрыклад, рэакцыйны светапогляд белых генералаў, якія ў лепшым выпадку бачылі незалежную Польшчу ў межах Царства Польскага, пазіцыю Антанты, у тым ліку Англіі і Францыі, якія падтрымлівалі белых, супярэчлівае стаўленне ўкраінцаў і літоўцаў да праекту адраджэння Рэчы Паспалітай.

У прынцыпе, рэакцыя на папярэднія кніжкі аўтара была падобнай. Аднак на гэты раз сітуацыя больш цікавая, паколькі кніга з'явілася на іншым палітычным фоне. Яна выйшла сінхронна з трыумфальным прыходам да ўлады польскіх правых, электарат якіх жыве тымі самымі гістарычнымі міфамі, што тыражуе Зыховіч. Апошняе дазваляе ўзняць правакацыйнае пытанне: ці ўплывае жанр альтэрнатыўнай гісторыі на масавую палітычную свядомасць?




Фота www.barcelonaru.com

# Утрымаць Каталонію

Алег НОВІКАЎ

**Каталонскі парламент 9 лістапада прыняў дарожную карту пераходу краю да незалежнасці. Навіны з Барселоны прымусілі аматараў іспанскай дзяржаўнасці распрацаваць контрплан для захавання адзінства краіны.**

Рубікон пяройдзены — такі лейтматыў каментараў у іспанскіх выданнях, якія выступаюць супраць каталонскага сепаратызму. Канстатаваўшы факт публікацыі Дэкларацыі пра незалежнасць, дзяржаўнікі пачалі рэфлексаваць наконт рэцэптаў выратавання тэрытарыяльнага адзінства. Трэба сказаць, што лагер прыхільнікаў незалежнай Каталоніі ў Іспаніі дастаткова шырокі — ад сацыялістаў да правых радыкалаў. Адсюль і цэлая палітра ідэй і праектаў наконт таго, як можна захаваць краіну ў яе цяперашніх межах.

Большасць каментатараў лічыць, што гідру каталонскага сепаратызму можна «задушыць» прававымі інструментамі. Акцэнт робіцца на тым, што дакумент, прыняты 9 лістапада, парушыў 155-ы параграф Канстытуцыі, які адкрыта забараняе адміністратыўным суб'ектам Іспанскага Каралеўства аднабаковы выхад са складу дзяржавы. Таму пастанова іспанскага Канстытуцыйнага трыбунала, які абавязкова мусіць даць ацэнку «дарожнай карце», відавочна, будзе негатыўнай.

Лічыцца, што на аснове таго вердыкту, які пабачыць свет днямі, урадам будзе выпрацаваная канкрэтная стратэгія, як паралізаваць рух Каталоніі да незалежнасці. Прэса мяркуе, што будзе прыняты закон аб адказнасці за непадпарадкаванне цэнтру. Таксама з'явіцца індэкс тых асоб, хто парушае згаданую пастанову.

Абмяркоўваецца механізм замарозкі сродкаў, якія знаходзяцца на банкаўскіх рахунках Генералітэту — так называюць каталонскі ўрад. Фінансавая катавасія, натуральна, можа негатыўна паўплываць на падрыхтоўку першага бюджэту незалежнай Каталоніі, не кажучы пра тое, што рэгіёну ва ўмовах крызісу і так хранічна не хапае грошаў. За апошнія чатыры гады аўтаномія атрымала з цэнтру 39 мільёнаў еўра датацый.

Галоўная зброя Мадрыду — ініцыятыва правядзення плебісцыту наконт незалежнасці Каталоніі. Па-сутнасці, ідэя рэферэндуму — пастка для нацыяналістаў. Называючы сябе дэмакратамі, яны могуць абвясціць незалежнасць выключна са спасылкай на тое, што выказваюць волю народу. Аднак наўрад ці «Junts pel Si» — кааліцыя нацыяналістаў — здольная выйграць усеагульнае галасаванне. На апошніх вераснёўскіх выбарах каталонскія незалежнікі атрымалі толькі 48 працэнтаў галасоў, хаця з-за асаблівасцяў мясцовага Выбарчага кодэксу маюць у парламенце дэпутацкую большасць. Тое, што пры такім раскладзе 9 лістапада незалежнікі прынялі Дэкларацыю пра незалежнасць, мадрыдскія СМІ падаюць як акт маніпуляцыі. На іх думку, фарсіраванне незалежнасці без падтрымкі большасці — дыскрэдытацыя каталонская дэмакратыі.

Некаторыя дзяржаўнікі таксама маюць надзею на паступовую эрозію лагера незалежнікаў. Ахілесавай пяткай нацыяналістычнай кааліцыі ў каталонскім парламенце з'яўляюцца левыя радыкалы з партыі «Кандыдатура народнага адзінства» (CUP), без галасоў якіх нацыяналісты не маюць большасці. Апошнія заявілі, што не падтрымаюць праект каталонскай Канстытуцыі, паколькі яна будзе пісацца пад дыктоўку лібералa Артура Маса, лідара «Junts pel Si». Усе прагназуюць таксама спрэчкі паміж «Junts pel Si» і CUP па праекту дакумента, які павінен закласці асновы сістэмы сацыяльнай абароны ў незалежнай Каталоніі.

Таксама трэба звярнуць увагу на тое, што працуўнікі незалежнасці кантралююць каля 40 працэнтаў дэпутацкага корпусу ў парламенце Каталоніі. Нягледзячы на ідэалагічную стракатасць гэтага лагеру — сацыялісты, кансерватары, лібералы, эколагі — могуць сабатаваць заканадаўчы працэс, які павінен стварыць прававы фундамент будучай дзяржавы. Хутчэй за ўсё, будуць намагацца ігнараваць пастановы Генералітэту і муніцыпалітэты, якія кантралююцца партыямі, арыентаванымі на Мадрыд.

Безумоўна, сярод дзяржаўнікаў ёсць і прыхільнікі радыкальных рашэнняў. Гэта ўльтраправыя партыі, што апелююць да арміі і караля, якія паводле Канстытуцыі нясуць адказнасць за дзяржаўнае адзінства. Найбольш маргінальныя групоўкі абяцаюць развязаць кампанію тэрору супраць лідараў каталонскага незалежніцкага руху. Праўда, гэта вельмі нешматлікія ініцыятывы.

Нельга сказаць, што ўсе ў Мадрыдзе стаяць на пазіцыях жорсткай канфрантацыі з Барселонай. Сацыялістычная прэса лічыць, што можна знайсці кампраміс праз пачатак канстытуцыйнай рэформы, у выніку якой Іспанія трансфармуецца ў федэратыўную дзяржаву.

Нягледзячы на ўсе пагрозы з боку цэнтра, у Барселоне пакуль выкідваць белы сцяг не збіраюцца. Парламентары-незалежнікі плануюць у самым хуткім часе пачаць працу над пакетам статутных дакументаў будучай дзяржавы. Ужо вядома, што праект каталонскай Канстытуцыі будзе прадстаўлены на абмерванне грамадскасці адразу пасля Новага года.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



### Амарджыт Сахі

Новы міністр інфраструктуры Канады, напэўна, самы экзатычны міністр і без таго вельмі экзатычнага новага канадскага ўраду, які быў прадстаўлены публіцы прэм'ерам Джасцінам Трудо. Палову ўраду складаюць жанчыны. Акрамя таго, там ёсць два чалавекі з абмежаванымі магчымасцямі, адзін — адкрыты гей, два абарыгены, бежанец з Афганістана і тры паслядоўнікі. Аднак Амарджыт Сахі ўсё роўна самы незвычайны на гэтым фоне. Нарадзіўшыся ў Канадзе ў 1964 годзе, ён ў маладосці вярнуўся ў Індыю, дзе браў актыўны ўдзел у сацыяльным руху. Закончылася гэта тым, што індыйскае МУС пасадзіла яго на два гады ў турму быццам бы за сувязь з левaрадыкальнымі партызанамі, прычым нават без суду. Будучы міністр правёў 18 месцаў у адзіночнай камеры, пакуль праваабарончая арганізацыя «Amnesty International» не дабілася яго вызвалення. Пасля Сахі вярнуўся ў Канаду, дзе стаў адным з лідараў руху за правы прадстаўнікоў нацыянальных меншасцяў. Застаецца сказаць, што кансерватыўная апазіцыя ўжо абвінавaціла Трудо ў тым, што ён уключыў у свой урад тэрарыстаў. Аднак пакуль на высокі рэйтынг ураду крытыка апазіцыі не ўплывае. Тым больш, хутка снежаньская кліматычная канферэнцыя ў Парыжы, адной з зорак якой, мяркуючы па ўсім, стане вельмі прагрэсіўны і харызматычны канадскі прэм'ер.

### Боза Петраў



Боза — старшыня харвацкай партыі «Мост», якая зрабіла сенсацыю, атрымаўшы на парламенцкіх выбарах 8 лістапада 19 мандатаў. Партыя была створана толькі тры гады таму і ішла на выбары з вельмі жорсткай праграмай. «Мост» выступае за фінансавую дысцыпліну, скарачэнне дзяржаўных выдаткаў, рэформы ў дзяржаўным сектары, падтрымлівае экспансіяніcцкую грашова-крэдытную палітыку. Гэта выглядае кантрастам на фоне праграм іншых партый, якія былі шчодрыя на абяцанні. Напрыклад, адна з партый абяцала выбаршчыкам у выпадку перамогі стварыць штодня па 500 працоўных месцаў і спыніць атаку мігрантаў з Сірыі. Так ці інакш, партыя з непапулісцкай праграмай нечакана стала трэцяй па выніку выбараў. Між тым, ні эсдэкі, ні кансерватары (партыі, якія занялі першае і другое месца) не маюць дастатковa мандатаў для фармавання ўраду. Такім чынам, камусьці з іх давядзецца весці перамовы з партыяй Петрава. Еўрапейская прэса разглядае поспех партыя Петрава, якому толькі 36 гадоў, як пробліск надзеі на дэмакратычную будучыню балканскага рэгіёну, дзе дамінуе папулізм.



### Паата Закарэішвілі

Дзяржміністр Грузіі па пытаннях прымірэння і грамадзянскага раўнапраўя парушыў табу грузінскай знешняй палітыкі, якая традыцыйна вымагае вяртання Абхазіі ў склад Грузіі. Пры гэтым статус Абахазіі, якая фактычна з'яўляецца расійскім пратэктаратам, у будучай Грузіі, як правіла, не абмяркоўваўся. Паводле прынятага яшчэ ў часы Гамсахурдзія ўказу, аўтаномія краю ўвогуле павінна быць ліквідаваная. Між тым, Закарэішвілі прапанаваў абхазам больш, чым аўтаномію. «Грузія гатовая разглядзець гэта пытанне, і ў нас ёсць пэўныя ўяўленні і меркаванні, напрыклад, якім павінна быць федэратыўная структура ў Грузіі, дзе ў Абхазіі будзе асаблівы статус. Над гэтым мы нямала працавалі, нават разам з нашымі апанентамі. Так што мы гатовыя да большай адкрытасці у гэтым кірунку», — заявіў Паата Закарэішвілі на пасяджэнні камітэта асацыяцыі «Грузія — Еўрасаюз». Пакуль цяжка сказаць, чым былі выкліканыя словы міністра. Аднак з улікам таго, што 27 кастрычніка ён павіншаваў абхазаў з Днём абхазскай мовы, можна лічыць, што гэта не выпадковая заява, а нейкая паслядоўная лінія. Праўда, пакуль афіцыйны Сухумі не рэагуе на сігналы з Тбілісі.



Амерыканская рэклама туру ў СССР


Сувеніры для замежных турыстаў у БССР


Дом Чырвонай Арміі. Мінск,1934 год

# «Інтурыст». Падарожжа ў імперыю Сталіна


Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**У 1930-я гады Савецкі Саюз прымаў значную колькасць замежных турыстаў. Як такое магло быць? Што прымушала амерыканцаў, брытанцаў і грамадзян іншых дзяржаў ехаць у «бальшавіцкую імперыю»?**

### З'яўленне легенды

Новы курс на індустрыялізацыю патрабаваў ад Крамля значных матэрыяльных выдаткаў. Адной з крыніц папаўнення пралетарскага бюджэту стаў замежны турызм. Акрамя гэтага, важным момантам у пытанні развіцця ўязнога турызму была прапаганда камуністычных ідэй і «савецкага ладу жыцця».

Увесну 1929 года было створана Дзяржаўнае акцыянернае таварыства па замежным турызме ў СССР, якое атрымала скарочаную назву «Інтурыст». Установа падпарадкоўвалася Народнаму камісарыяту знешняга і ўнутранага гандлю, а яе статутны капітал складаў 5 мільёнаў рублёў. У снежні 1933 года адбылося аб'яднанне дзяржаўнага акцыянернага таварыства «Інтурыст» з Усесаюзным акцыянерным таварыствам «Гатэль», у выніку чаго было створана Усесаюзнае акцыянернае таварыства па замежным турызме ў СССР «Інтурыст» са статутным капіталам у 35 мільёнаў рублёў.

Праз год «Інтурыст» заключыў пагадненне з такімі вядомымі кампаніямі, як «American Express Co.», «Thomas Cook and Son», Таварыства міжнародных спальных вагонаў «Вагон-Лі», Сярэднееўрапейскае бюро падарожжаў «Мер». У Нью-Ёрку на Пятай авеню адкрылася прадстаўніцтва галоўнай савецкай турыстычнай арганізацыі. Пазней такія ж офісы з'явіліся ў Чыкага, Бостане і Лос-Анджалесе. 60 працэнтаў замежнікаў, якія ў 1930 годзе прыехалі ў Савецкі Саюз, былі грамадзянамі ЗША.

Кошт падарожжа першым класам складаў 15 долараў за дзень, другім — 8 долараў, трэцім — 5 долараў. У кошт уваходзіла атрыманне візы, пражыванне ў гатэлі, праца перакладчыкаў, экскурсіі. Пры гэтым замежнік вымушаны быў папярэдне аплаціць увесь кошт «турыстычнай пуцёўкі». У СССР накладам у 10 тысяч асобнікаў пачаў выдавацца часопіс «Soviet travel». Ён распаўсюджваўся ў Еўропе і США.

### Індустрыялізацыя рукамі замежнікаў

З канца 1920-х гадоў значная колькасць заходнееўрапейскіх дзяржаў знаходзілася ў эканамічнай «дэпрэсіі», таму кірунак на развіццё прамысловасці, узяты ў «імперыі Сталіна», прываблівў еўрапейцаў і амерыканцаў. Замежныя спецыялісты па запрашэнні савецкага боку (як і без яго) ехалі ў «краіну працоўных і сялян». Кампанія Альберта Кіна стварыла планы для будаўніцтва больш за 600 заводаў па ўсім СССР, у працах на пляціне «Днепрагэс» удзельнічалі інжынеры з «Джэнерал электрык», а першыя савецкія аўтамабілі збіраліся пад наглядам амерыканскіх механікаў з заводу «Форд».

Разам з гэтым атмасфера «шпіёнаманіі» накладала свой адбітак на візіты замежных турыстаў. У той час савецкі пракурор Андрэй Вышынскі падкрэсліваў: «Рэзідэнты — гэта кропкі апоры замежнага шпіянажу. Замежны выведнік імкнецца заваяваць давер і ўсыпіць увагу, пільнасць да сябе». У 1933 годзе некалькіх брытанскіх інжынераў фірмы «Метраполітэн-Вікерс», якія працавалі ў СССР, абвінавацілі ў шкодніцтве. Тады ж НКУС увёў абмежаванні для ўезду падданых брытанскага караля ў Савецкі Саюз. «Візавая вайна» паміж Лонданам і Масквой працягвалася да лета 1941 года.


Цягнік Масква—Парыж у Коласава, 1935 год

Акрамя гэтага, аддзелам «Інтурыста» загадвалася прымаць заявы толькі ад тых замежных працоўных і інжынераў, якія мелі пры сабе зваротны квіток да любога населенага пункта за межамі Савецкага Саюза, а таксама дазвол на зваротны ўезд у краіну, з якой яны прыехалі. Звязана гэта было з тым, што значная колькасць амерыканскіх і еўрапейскіх прамысловых працоўных (асабліва ў гады вялікай дэпрэсіі) губляла працу і разлічвала знайсці яе ў СССР. Гэты «непажаданы», «кепска класава выхаваны элемент» быў не патрэбны савецкім уладам. Акрамя гэтага, агентам «Інтурыста» за мяжой забаранялася прымаць заявы ад замежнікаў, якія збіраліся ехаць у СССР з малымі (да 16 гадоў) дзецьмі.

Асаблівую ўвагу савецкія спецорганы надавалі прыезду замежнікаў з Другой Рэчы Паспалітай, а таксама краін Балтыі. Амаль кожнага з турыстаў адтуль падазравалі ў шпіёнскай дзейнасці. У 1935 годзе значнай колькасці ўладальнікаў пашпартоў з белым арлом без тлумачэння не выдалі візу ў СССР. Разам з тым, знакамітая польская фірма «Орбіс» да пачатку Другой сусветнай вайны прапанавала польскім грамадзянам туры ў Маскву і іншыя гарады СССР.

### Сэрвіс па-бальшавіцку

У пачатку 1930-х гадоў у Мінску было некалькі гатэляў, у тым ліку Мінская дзяржаўная гасцініца (былая «Еўропа»). Аднак іх якасць не падыходзіла да прыёму замежных гасцей. Улічваючы ў тым ліку і гэта, у 1934 годзе было прынята рашэнне пра будаўніцтва на рагу мінскіх вуліц Кірава і Валадарскага гасцініцы «Беларусь». Працы былі скончаныя ў 1938 годзе. У новым гатэлі было больш за тры сотні камфартабельных нумароў.




У 1936 годзе была прынята Генеральная інструкцыя па курортнаму абслугоўванню замежнікаў, якая прадугледжвала некалькі класаў сэрвісу ў залежнасці ад матэрыяльнага дастатку замежнікаў. Дакумент таксама абумоўліваў магчымасць арэнды аўтамабіля і кіроўцы. Супрацоўнікам «Інтурыста», якія непасрэдна ўступалі ў кантакт з замежнікамі, рэкамендавалася імкнуцца «да пабудовы сяброўскіх адносін» з турыстамі з іншых краін. У буклетах, якія дасылаліся ў аддзяленні «Інтурыста» ў 1939 годзе, адзначалася, што «галоўнай мэтай працы, якую праводзіць арганізацыя, з'яўляецца садзейнічанне данясенню замежнікамі праўдзівай інфармацыі пра Савецкі Саюз, сацыялістычнае будаўніцтва ў горадзе і вёсцы, сацыяльна-бытавых і культурна-асветніцкіх устаноў і іншых аб'ектаў, якія характарызуюць дасягненні і перавагі сацыялістычнага ладу над капіталістычным».

За некалькі месяцаў да пачатку Другой сусветнай вайны ў Нью-Ёрку прайшла турыстычная выстава, на якой «Інтурыст» правёў гучную рэкламную кампанію. На мерапрыемстве супрацоўнікі арганізацыі прэзентавалі шматлікія буклеты і праспекты, якія заклікалі наведаць гарады і курорты СССР. Сярод іншых амерыканцы ўбачылі і выданы ў 1937 годзе буклет пра Мінск.

### У СССР праз Коласава

Замежныя госці прыязджалі ў «імперыю Сталіна» некалькімі шляхамі. Частка з іх параходамі даплывала да Ленінграда, Адэсы ці Батумі. Іншыя карысталіся самалётамі. Аднак большасць замежнікаў ехала ў СССР па чыгунцы. З Парыжу, Берліна ці Варшавы на цягніку еўрапейцы ці амерыканцы прыязджалі на памежную станцыю Коласава ў Заходняй Беларусі і, пасля пераходу мяжы, ужо на савецкім цягніку ехалі ў Мінск, Маскву, Кіеў ці іншыя савецкія гарады. Менавіта праз Стоўбцы — Негарэлае ў жніўні 1935 года на тэрыторыю Савецкага Саюза прыехалі дэлегаты Міжнароднага фізіялагічнага кангрэса. Знаходжанне навукоўцаў у СССР каардынаваў «Інтурыст». А летам 1937 года праз гэты чыгуначны калідор у Савецкі Саюз прыехала футбольная зборная Краіны Баскаў. У жніўні таго ж года баскскія футбалісты згулялі са зборнай Мінска і перамаглі апошнюю з лікам 6:1.

Пры перасячэнні дзяржаўнай мяжы замежнікі былі абавязаны задэклараваць усе каштоўнасці і ўпрыгожванні і падчас выезду з СССР прадставіць дэкларацыю савецкім мытным органам. Аднак, паводле ўспамінаў відавочцаў, шмат хто з замежнікаў не звяртаў увагу на гэтую працэдуру, і пазней іх заручальныя пярсцёнкі, гадзіннікі забіралі ў даход дзяржавы Саветаў. Замежнікам на тэрыторыі СССР дазвалялася рабіць здымкі любых аб'ектаў акрамя заводаў, фабрык, чыгуначных станцый, а таксама вайсковых частак. Фотаплёнку можна было вывозіць дадому толькі ў праяўленым выглядзе.

У верасні 1939 года Польшча была падзеленая паміж Трэцім Рэйхам і СССР, а летам 1940 года Крэмль анексаваў краіны Балтыі. Усё гэта наклала адбітак на дзейнасць «Інтурысту». ЗША і Вялікабрытанія больш не жадалі супрацоўнічаць са Сталіным. Замест «амерыканскага накірунку» савецкае турыстычнае агенцтва спрабавала развіваць супрацу з Трэцім Рэйхам і Японскай імперыяй. Такое палажэнне спраў працягвалася да чэрвеня 1941-га.

**Фота з уласнага архіва Ігара Мельнікава**

# Польскі след скокаўскага мядзведзя

Алена ЛЯШКЕВІЧ, Генадзь ХОДАР

**Імем нашага земляка з вёскі Скокі, што пад Брэстам, названа ажно тры вуліцы ў Варшаве, а яшчэ мікраёен і ўніверсітэт. Але сам Урсын Нямцэвіч не лічыў сябе беларусам.**



Юліян Урсын Нямцэвіч

Радавая легенда Юліяна Урсына Нямцэвіча апавядае пра паходжанне ад рымлянаў і сарматаў, а сам ён быў адданым грамадзянінам Рэчы Паспалітай абодвух народаў.

Юліян Урсын Нямцэвіч — пісьменнік, паэт, гісторык, палітычны дзеяч. Ён нарадзіўся ў Скоках (цяпер Брэсцкі раён) 16 лютага 1758 года. Быў самым здольным з 16 дзяцей Марцэлія і Ядвігі Нямцэвічаў і, кажуць, у 6 гадоў ужо чытаў бацьку ўголас газеты.

Юліян Нямцэвіч быў дэпутатам Чатырохгадовага Сойма Рэчы Паспалітай (1788–1792), адным з аўтараў канстытуцыі 3 мая 1791 года. У 1794 годзе ён стаў сакратаром і ад'ютантам Тадэвуша Касцюшкі, разам з ім удзельнічаў у паўстанні, трапіў у палон, з'ехаў у ЗША. Мабыць, Юліян атрымаў палітычныя здольнасці ў спадчыну ад бацькі. Марцэлій Нямцэвіч у свой час браў удзел у Соймах Рэчы Паспалітай, прысутнічаў на выбарах караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага, чым вельмі ганарыўся, бо той быў яго земляком (Станіслаў Аўгуст нарадзіўся ў маёнтку Воўчын, цяпер вёска ў Камянецкім раёне).

## Варшаўскі перыяд

У 1807 годзе па ўмовах Тыльзіцкага міру з польскіх зямель, што ў выніку падзелаў Рэчы Паспалітай адышлі да Аўстрыі і Прусіі, было створана фармальна незалежнае Герцагства Варшаўскае (фактычна пратэктарат напалеонаўскай Францыі). З 1815 года тэрыторыя Герцагства Варшаўскага адышла да Расійскай імперыі.

Нямцэвіч вярнуўся на радзіму. У 1822 годзе Юліян Урсын набыў палац, што тады знаходзіўся за гарадскімі межамі Варшавы. Толькі вярнуўшыся з ЗША, ён хацеў назваць сядзібу «Амерыка» ці, у гонар першага прэзідэнта, «Вашынгтон». Аднак сябры пераканалі яго, што гэтыя назвы могуць быць не прынятыя ў Расійскай імперыі. Таму Юліян спыніўся на назве «Урсынаў» у гонар свайго родавага імя.

Палац быў пабудаваны 1775–1777 гадах, дарэчы, адначасова з сядзібай у беларускіх Скоках. Праз панаванне ў архітэктуры таго часу стыляў барока і класіцызму ў будынкаў шмат агульных рысаў. Такое падабенства дазваляе казаць аб улучанасці беларускіх земляў у агульны культурны кантэкст Рэчы Паспалітай.

Захаваліся сведчанні, што ва Урсынаве віселі партрэты цара Паўла і князя Чартарыйскага. Мабыць, Паўлу Нямцэвіч быў удзячны за вызваленне з Петрапаўлаўскай крэпасці, дзе разам з Касцюшкам прасядзеў 2 гады. А князь Чартарыйскі ўзначальваў войска Рэчы Паспалітай, калі Нямцэвіч скончыў кадэцкую школу ў Варшаве. Юліян быў ад'ютантам князя і шмат вандраваў разам з ім па краіне.

Ва Урсынаў Юліян Нямцэвіч прыязджаў на лета на працягу дзесяці гадоў, а зіму праводзіў таксама пад Варшавай, але ў маёнтку Аляксандры Патоцкай Віляноў. Нягледзячы на высокае сацыяльнае становішча ў краіне, дзе панавала расійская адміністрацыя, Юліян не пакідаў мараў аб вольнай радзіме. Калі пачалася падрыхтоўка да паўстання 1830–1831 гадоў, Нямцэвіч, нягледзячы на ўзрост, прыняў у ёй удзел. Ён увайшоў у Паўстанцкі камітэт, стаў адным з аўтараў маніфеста, які абвяшчаў незалежнасць Польшчы ад Расіі.

Апошнім разам Юліян Нямцэвіч наведаў Урсынаў 24 чэрвеня 1831 года, а 12 ліпеня выехаў у Лондан як пасол Польшчы. Знаходзячыся ў Англіі, даведаўся пра паразу паўстання, і ўжо не мог вярнуцца на радзіму.

Некаторы час Юліян Нямцэвіч заставаўся ў Лондане, пасля з'ехаў у Парыж, дзе і памёр у 1841 годзе. У Парыжы і Элізабэттаўне (ЗША) захаваліся дамы, дзе ён жыў.

Урсынаўскі перыяд свайго жыцця Юліян Нямцэвіч апісаў у «Дзённіку маёй дзейнасці ва Урсынаве», што з'яўляецца цікавым помнікам мемуарыстыкі XIX стагоддзя. У дзённіку можна знайсці шмат цікавых дэталяў у апісанні, напрыклад, надвор'я, мясцовай флоры і фауны. Таксама Нямцэвіч шмат увагі надаваў апісанню гаспадарчых праблем, расповеду пра прыём гасцей. Ёсць у дзённіку і яго філасофскія развагі. Акрамя таго, у маёнтку Юліян Нямцэвіч напісаў паэму «Думкі пра Урсынаў», дзе паведаміў, што спраўдзіліся яго мары аб уласным куце.

Сёння Урсынаў належыць Варшаўскаму сельскагаспадарчаму ўніверсітэту. Імем Юліяна Нямцэвіча названы «ўніверсітэт трэцяга веку», што дзейнічае пры ўстанове. Штогод тут навучаецца каля 700 чалавек сталага ўзросту.



Палац Урсынаў у Варшаве



Герб Нямцэвічаў



Герб Урсынава

У гонар Нямцэвіча цяпер названа вуліца недалёка ад цэнтра Варшавы. На поўдні польскай сталіцы ёсць вуліцы Урсынаўская і Новаўрсынаўская. На апошняй знаходзіцца палац Урсынаў, які даў назву цэламу мікраараёну.

На гербе сям'і Нямцэвічаў была выяўлена дзяўчына на мядзведзі (лац. ursus — мядзведзь). Гэты герб лёг у аснову герба варшаўскага раёна Урсынаў у 1967 годзе. Герб можна таксама знайсці ў афіцыйных лістах, падпісаных мэрам Варшавы, на плакатах і рэкламнай прадукцыі.

## Беларускі двайнік польскага палаца

У Скоках захаваўся сядзібна-паркавы ансамбль эпохі барока і адначасова помнік садова-паркавага мастацтва «французскага» стылю, які належаў роду Нямцэвічаў. У 2013 годзе ў палацы быў адчынены гісторыка-мемарыяльны музей «Сядзіба Нямцэвічаў». Да нашага часу захавалася прыкладна чвэрць архітэктурнага комплексу маёнтка і палова паркавай зоны, што існавалі 200 гадоў таму.

Сядзіба была пабудаваная па праекце невядомага галандскага архітэктара ў 1770-х гадах, калі маёнткам валодаў Марцэлій Нямцэвіч, бацька Юліяна Урсына. Палац захоўваў свой першасны выгляд да 1820-х гадоў, потым быў часткова перабудаваны. Сядзібны дом мае характэрную для барока пластычную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю, падначаленую люстранай сіметрыі: прамавугольны ў плане будынак пад мансардай, пакрыты тыповым для барока «ламаным» французскім дахам. Маюцца невялікія бакавыя вежы.

Ідэю пабудовы Марцэлій Нямцэвіч падгледзеў у суседа — Яна Флемінга. У той час Флемінг перабудоўваў сваю рэзідэнцыю ў блізкім ад Скокаў Цярэспалі і прывёз шмат майстроў з Галандыі і Нямеччыны. Побач па Заходнім Бугу праз Віслу хадзілі рачныя гандлёвыя караблі на Гданьск, так што выбар месца для будаўніцтва быў цалкам апраўданы.

Захавалася некалькі выяваў сядзібы: акварэль Юліяна Нямцэвіча канца 1770-х, малюнкі Напалеона Орды 1864–1873 гадоў. З канца XIX — пачатку XX стагоддзя засталіся фотаздымкі сядзібы ў Скоках, што захоўваюцца ў сямейным архіве Нямцэвічаў у Францыі. На іх можна пабачыць інтэр'еры палаца, фрагменты парку і прылеглых тэрыторый. У сядзібе віселі карціны Фра Барталамеа, Бацічэлі, Ван Дэйка, малюнкі Леанарда да Вінчы.

На сядзібе ў Скоках адбіўся цяжкі лёс усёй нашай краіны: палац быў разрабаваны некалькі разоў: у 1794, 1915, 1918 і ў 1939 гадах.

У 1794 годзе, пасля паразы паўстання Тадэвуша Касцюшкі, у якога, як ужо вядома, Юльян Нямцэвіч быў ад'ютантам, сядзібу разрабавалі падначаленыя маскоўскага генерала Дэрфельда. Па словах Юльяна Нямцэвіча, рускія вывезлі ўсё, «...нават маленькага сабачку». Але ў Нямцэвічаў атрымалася дамовіцца, каб большую частку рэчаў у палац усё ж такі вярнулі.

Асаблівасць сядзібы Нямцэвічаў у тым, што ад сваёй пабудовы ў 1770-х гадах і да 1939 года яна належала аднаму і таму ж роду. Легенда апавядае, што заснавальнік роду Нямцэвічаў Юліян Урсын з'явіўся ў Літве разам з рымскім атрадам Палямона, што валодаў землямі ў Італіі. З Літвы род перасяліўся ў Польшчу і прыняў прозвішча Нямцэвіч. Лічыцца, што легенда аб Палямоне прыдуманая ў XV ці XVI стагоддзі з мэтай звязаць паходжанне шляхты ВКЛ з рымлянамі.

Першыя дакументальныя згадкі пра род Нямцэвічаў сустракаюцца ў дакументах канца XV стагоддзя. Яны звязаны з судовай справай шляхціца Салагубовіча супраць яго сваячкі Ядвігі, жонкі Яна Нямцэвіча. Для тагачаснага Вялікага Княства Літоўскага справа не была надзвычайнай. Паводле Статутаў ВКЛ, складзеных на аснове ранейшага заканадаўства і звычаёвага права, жанчына мела права на маёмасць, магла распараджацца сваім пасагам незалежна ад волі мужа, адстойваць сваю ўласнасць і гонар у судзе. Праўда, гэтыя прывілеі датычыліся толькі шляхцянак, жанчыны іншых саслоўяў былі абмежаваныя ў правах значна болей.

Сёння нашчадкі Нямцэвічаў жывуць у Канадзе, Францыі і Польшчы. Музеі Еўропы, Расіі, Беларусі ганарацца прадметамі, звязанымі з родам Нямцэвічаў, у сваіх фондах.



Палац у Скоках

**Падбор фота — Генадзь Ходар**

# «AMAROKA»: адпачынак скончаны

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**Нягледзячы на зацішша ў творчасці і працяглы перапынак, гурт «AMAROKA» ўсё ж аднаўляе сваю канцэртную дзейнасць у рамках фэсту кантрастнай музыкі Light & Drive Festival. Пра тое, чаго чакаць ад «AMAROKA» і што надае сілы для творчай дзейнасці, разважае лідар гурта Зміцер Афанасенка.**





***— Ваш апошні альбом «VIRUS» (2014 г.) атрымаў станоўчыя водгукі крытыкаў і слухачоў. Але ён стаў той рысай, пасля якой у вас распачаўся працяглы «творчы адпачынак». Ці ствараюцца ў гэтых умовах новыя песні, якія ўвойдуць у чарговую кружэлку гурта «AMAROKA»? Калі мы зноўку пачуем старыя хіты і новыя кампазіцыі?***

— Альбом «VIRUS» быў творчым эксперыментам. Мы шукалі новы гук, і я першы раз чытаў вершы замест таго, каб іх спяваць. Мы задаволеныя вынікам. Але і разумеем, што мяжы дасканаласці няма. Таму пачалі працу над новымі кампазіцыямі, якія, я думаю, будуць адрознівацца ад старога матэрыялу. З-за творчага адпачынку мы не будзем спяшацца выпускаць новы альбом у гэтым годзе, але абавязкова падрыхтуем сінгл і музычны кліп. Што тычыцца выступленняў на вялікіх пляцоўках, то хутка мы адновім нашу канцэртную і гастрольную дзейнасць.

***— Акрамя абавязкаў лідара гурта «AMAROKA», вы, Зміцер, супрацоўнічаеце з грамадскай ініцыятывай «Арт-сядзіба» ў якасці менеджара. Ці ўдзельнічаюць музыканты ў мастацкіх акцыях «Арт-сядзібы», у тым ліку і гурт «AMAROKA»? Назавіце некалькі прыкладаў такога супрацоўніцтва.***

— Так, я з’яўляюся заснавальнікам «Арт-сядзібы» і менеджарам, удзельнічаю амаль ва ўсіх праектах пляцоўкі на розных этапах іх стварэння. Гурт «AMAROKA» як штатны калектыў грамадскай ініцыятывы «Арт-сядзіба» таксама задзейнічаны ў яе праектах. Напрыклад, мы выступалі падчас правядзення «Дня вышыванкі», на «Тату-Фэсьце–2015»…

***— З матэрыялаў сайта «Арт-сядзібы» вядома, што ў межах гэтай грамадскай ініцыятывы вы распрацоўваеце свой, так бы мовіць, грамадскі стартап — беларускамоўныя настольныя гульні («настолькі»). Гэта жаданне дапамагчы сваім аднагодкам у нязмушанай, гульнёвай форме больш даведацца пра беларушчыну?***

— Вядома, што гульня, паводле даследаванняў псіхолагаў, — адзін з самых дзейсных інструментаў для засваення фактаў, іх творчай інтэрпрэтацыі. Гульня спрыяе развіццю варыятыўнасці мыслення і камунікатыўных функцый чалавечага мозгу. Гульня можа садзейнічаць набыццю новых ведаў, напрыклад, па нашай гісторыі і культуры, спрыяць далейшай сацыялізацыі маладога чалавека ў якасці грамадзяніна сваёй краіны. У мяне была мара стварыць такую асацыятыўную гульню. Так нарадзілася ідэя беларускамоўнай «настолкі» «Казачнік», у якой выкарыстоўваюцца жывапісныя працы вядомых беларускіх мастакоў. Удзельнікі гульні (а іх можа быць 3–6 чалавек) маюць магчымасць карыстацца альтэрнатыўнымі правіламі (але трэба папярэдне дамаўляцца пра іх). Каб выкарыстаць іх карціны для гульні, мне давялося звязвацца з мастакамі і прасіць дазволу. Не ўсе пагадзіліся з маёй прапановай, але з цягам часу праца была зроблена. Галоўны прынцып «настолкі» «Казачнік» можна сфармуляваць так: «карыстаючыся асацыяцыямі, пачні думаць і гаварыць па-беларуску!»

***— З прэсы і свайго досведу вам, Зміцер, вядома, што многія з калегаў па музычнаму цэху трапілі пад бюракратычны прэс: па невядомых прычынах зрываюцца канцэрты, іх творчасць замоўчваюць афіцыйныя СМІ… На ваш погляд, доўга будзе працягвацца такая практыка і што трэба зрабіць усім нам, каб песні на роднай мове часцей даходзілі да слухачоў?***

— Я ведаю, што ўсё кепскае калі-небудзь скончыцца, і, як у свой час казаў біблейскі Эклезіяст, усё патаемнае з часам стане вядомым! Трэба спадзявацца на лепшае і рабіць добрыя справы на карысць нацыянальнай культуры. Гэта мой просты рэцэпт! Жадаю поспехаў на гэтым шляху ўсім беларускім музыкантам.

Таксама запрашаю на наш першы пасля перапынку канцэрт, які пройдзе 20 лістапада ў клубе «Пляцоўка Хол» (Кастрычніцкая плошча, 11). Там мы зайграем у поўным класічным складзе разам з гуртом «NAVI».

**Фота аўтара і з архіва гурта**



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**
**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.
**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81 novychas@gmail.com; novychas.by
**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 1445

Падпісана да друку 13. 11.2015. 8.00. Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.